ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ

№ 2 (110) 2015

# аБАЖУР

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS




Каманда штотыднёвіка «БЕЛАРУСЫ І РЫНАК»



Сёння, як ніколі, незалежная журналістыка павінна выразна адмежавацца ад «байцоў інфармацыйных войнаў» і дэманстраваць высокія стандарты прафесіі.



«Сакрэт», які дапамог мне абараніць псіхіку падчас прагляду шматлікіх прапагандысцкіх пасажаў, просты: я глядзеў іх па прынцыпе «люстэрка», бо ведаў, што ў вайны ніколі не бывае толькі адной праўды.



Якімі б ні былі начальнікі, якімі б матывамі яны ні кіраваліся, але — ад стварэння свету — яны будуць дамаўляцца паміж сабой.



# Дуня Міятавіч выступіла ў абарону беларускіх фрылансераў, СМІ і інтэрнэт-сайтаў

Прадстаўніца АБСЕ па свабодзе СМІ Дуня Міятавіч заклікала беларускія ўлады спыніць праслед супрацоўнікаў медыя і практыку стварэння перашкодаў журналістам у іх працы.

*«Улады павінныя спыніць выкарыстанне абмежавальных захадаў у дачыненні да фрыланс-журналістаў і перастаць перашкаджаць ім спакойна і свабодна выконваць сваю працу»,* — заявіла Міятавіч.

Пад разгляд Бюро прадстаўніка АБСЕ па свабодзе СМІ падпалі нядаўнія штрафы журналістам Кастусю Жукоўскаму, Іне Хоміч, Алесю Ляўчуку, Ларысе Шчыраковай, Тамары Шчапёткінай, два пакаранні штрафам Аліне Літвінчук, а таксама пагроза выкарыстання аналагічных санкцый да Алеся Дзянісава і Алеся Кіркевіча.

*«Мой Офіс выказвае гатоўнасць дапамагчы ўладам любымі спосабамі, каб змяніць гэтую разбуральную тэндэнцыю і каб зрабіць магчымымі дыялог і супольную дзейнасць урадавых установаў і медыяарганізацый па гэтым пытанні»,* — заявіла Д. Міятавіч.

Прадстаўніцу АБСЕ па свабодзе СМІ непакояць таксама рост колькасці папярэджанняў беларускім выданням ад Міністэрства інфармацыі за нязначныя парушэнні і перыядычная блакіроўка ў Беларусі незалежных сайтаў навін.

# абажур

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

**ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!**

***Выдавец:*** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
***Перыядычнасць:*** 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.
№ 2 (110) 2015 г.

***Галоўны рэдактар***
Уладзімір Барысавіч Дзюба

***Фота на вокладках —***
Юрый Сезень,
Аляксандр Трыпуцька,
фота з архіва «А»

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009 г.

Падпісана да друку 08.04.2015 г.
Дата выхаду 22.04.2015 г.
Фармат 60x84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 500 асобнікаў.
Заказ № _________
Распаўсюджваецца бясплатна.

***Адрас рэдакцыі:***
***220030, г. Мінск,***
***вул. Камсамольская, 7–32.***
***Тэл./факс: (017) 203-63-66,***
***(029) 126-70-98***
***E-mail: abajur@baj.by,***
***baj@baj.by***
***Сайт: www.baj.by***

Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com


У адпаведнасці з Законам аб друку аўтары нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, прыведзеных у артыкулах.

Рэдакцыя можа публікаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтараў.



Дваццаць гадоў праляцелі, як адно імгненне, — хутка Беларуская асацыяцыя журналістаў будзе адзначаць свой юбілей. Гэты адрэзак часу не такі ўжо і малы — як для гісторыі грамадскай арганізацыі, так і для кожнага з нас, хто называе сябе бажаўцам. Шмат вады ўцякло, і шмат давялося перажыць — як горкага, так і радаснага. Чаго было больш, мы не задумваліся, бо пастаянна адстойвалі сваё права на прафесію і свабоду слова — галоўнае, без чаго не можа існаваць цывілізаванае дэмакратычнае грамадства.

# Жанна Літвіна:

З першага дня заснавання нашу грамадскую арганізацыю ўзначальвала Жанна Літвіна, нязменны лідар, мужная і абаяльная жанчына.

**Напярэдадні IX з'езда БАЖ з ёю сустрэўся Юрась Карманаў.**

***— Асацыяцыя стваралася ў часы рэвалюцыйных зменаў у Беларусі, калі новыя СМІ ўзнікалі адзін за адным. Што стала сапраўдным штуршком для стварэння арганізацыі?***

— Стварэнне БАЖ трэба разглядаць у кантэксце тых гістарычных падзеяў, якія адбываліся і ўнутры краіны, і звонку — перабудова, распад СССР. Знакавай падзеяй для беларусаў сталася прыняцце ў 1990 годзе Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Гэтая падзея падштурхнула да ўзнікнення грамадскіх ініцыятываў, да першых крокаў па стварэнні грамадзянскай супольнасці. Гэта супала са з'яўленнем

некалькіх дзясяткаў незалежных СМІ, якім патрэбная была агульная пляцоўка. Я называю той перыяд сапраўдным Рэнесансам у гісторыі беларускай журналістыкі. З'явіліся і хутка сталі папулярнымі газеты «Белорусский рынок», «Свабода», «БДГ. Биржи и банки», прыватнае інфармацыйнае агенцтва «БелаПАН», цэлы шэраг незалежных рэгіянальных выданняў.

Гэта натхніла і дало пачуццё сілы, жаданне пераменаў, прадчуванне росквіту свабоды слова. Грунтаваліся гэтыя чаканні на выказваннях будучага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, які гарантаваў — у выпадку яго перамогі на выбарах — ліквідаваць манаполію ўлады на СМІ і стварыць нармальныя ўмовы для працы журналістаў «з доступам да інфармацыі незалежна ад волі чыноўнікаў», абяцаў спыніць пераслед журналістаў па палітычных матывах.

Але рэчаіснасць, на жаль, перакрэсліла ўсе гэтыя абяцанкі і вызначыла прыярытэтны кірунак дзейнасці новай арганізацыі.

БАЖ была зарэгістраваная Мінюстам у кастрычніку 1995 года, а першая заява, якую прыняла арганізацыя, змяшчала пратэст супраць выгнання з беларускіх друкарняў «Народнай волі», «БДГ» і газеты «Имя». Мы канчаткова развіталіся з ілюзіямі пасля «белых плямаў», якія з'явіліся на старонках галоўных незалежных выданняў замест даклада пра карупцыю. На першы план выйшлі пытанні, звязаныя з адстойваннем права на прафесію.

За 20 гадоў сышлі з жыцця многія нашыя калегі, многія легендарныя выданні перасталі існаваць. І наш святы абавязак — стварыць віртуальны музей гісторыі незалежнай журналістыкі незалежных выданняў. А ўжо літаральна праз год замест фестывалю быў праведзены «Дзень закрытых газет»... Толькі ў 2003 годзе мы страцілі 19 выданняў. Так, мы вымушаны былі абараняць сяброў сваёй арганізацыі, змагацца за кожнага, адначасова фармулюючы свой «парадак дня».

З першых дзён свайго існавання БАЖ заняла лідарскія пазіцыі ў прасоўванні стандартаў якаснай журналістыкі, нормаў прафесійнай этыкі. Сёння ў падмурку нашай дзейнасці ляжаць тры асноўныя дакументы, якія дазваляюць зрабіць дакладны і адказны выбар на карысць прафесіі: Маніфест сумлення, Дэкларацыя прынцыпаў прафесійнай этыкі журналіста, Кодэкс прафесійнай этыкі.

БАЖ выступіла ініцыятарам стварэння канцэпцыі грамадскага вяшчання і законапраекта аб доступе да інфармацыі. Яны актуальныя і сёння, але іх ажыццяўленне залежыць ад палітычных зменаў у краіне.

А пакуль журналісцкая супольнасць мусіць рыхтавацца да медыярэформы, якая павінна пачынацца з дэманапалізацыі масмедыя, прывядзення заканадаўства ў адпаведнасць міжнародным нормам і стандартам, легалізацыі працы журналістаў-фрылансераў.

З 1997 года наша Асацыяцыя стала часткай міжнароднай журналісцкай супольнасці, уступіўшы ў Міжнародную Федэрацыю журналістаў. Пазней пачалося супрацоўніцтва з «Рэпарцёрамі без межаў», «Камітэтам абароны журналістаў», «Article 19», іншымі аўтарытэтнымі праваабарончымі арганізацыямі.

Дзякуючы гэтаму супрацоўніцтву мы не адчуваем сябе ў адзіноце. Напрыклад, у межах кампаніі «За фрыланс» беларускіх калег падтрымліваюць прафесійныя арганізацыі ў розных кутках свету — Аўстрыі, Польшчы, Фінляндыі, Германіі... Усе яны нядаўна накіравалі ў Міністэрства інфармацыі Беларусі лісты з заклікам распачаць дыялог пра ўвядзенне статусу журналіста-фрылансера ў беларускае заканадаўства.

# *«Вырасла новая генерацыя лідараў БАЖ»*

Беларусі, захаваць памяць пра гэтыя яскравыя старонкі нашай мінуўшчыны. Усё гэта вартае асобнага летапісу.

***— Сітуацыя ў краіне даволі хутка памянялася. На нас абрынуліся крымінальны пераслед вядучых журналістаў, закрыццё лепшых незалежных выданняў, забойствы Дзмітрыя Завадскага і Веранікі Чаркасавай. Увесь час улады намагаліся дыктаваць БАЖ свой «парадак дня»…***

— Я ўзгадваю, што ў студзені 2002 года ў «Фестывалі незалежнай прэсы» ўдзельнічалі каля 60

Мы адчуваем і разумеем неабходнасць няспыннага падвышэння прафесійнага ўзроўню супрацоўнікаў СМІ. Тут нашымі сталымі дарадцамі з'яўляюцца шведскі інстытут FOJO, іншыя скандынаўскія, нямецкія і польскія партнёрскія арганізацыі.

***— Спадарыня Жанна, напярэдадні мінулага з'езда журналісцкай арганізацыі асабіста супраць Вас была зладжаная кампанія цкавання, у якой задзейнічалі «цяжкую артылерыю»: фільмы БТ, спісы невыязных, персанальныя «кампраматныя» лісты сябрам асацыяцыі і г. д. Аднак тады Вы годна выстаялі і не пакінулі пасаду старшыні. Што ж здарылася цяпер, чаму Вы вырашылі сысці?***

— Я бясконца ўдзячная маім калегам, якія на мінулым з'ездзе мяне падтрымалі і адэкватна паставіліся да той хвалі дыскрэдытацыі, якая была разлічаная на развал арганізацыі. Мы выстаялі разам!

Але існуе «закон грамадскай стомленасці». І аднойчы ён пачынае дзейнічаць не толькі ў дачыненні да кіраўнікоў дзяржаваў, але пашыраецца і на актывістаў грамадзянскай супольнасці. Аднойчы прыходзіць разуменне таго, што, калі ў цябе ёсць пачуццё ўласнай годнасці, гэты крок — вызваленне пасады — чалавек павінен зрабіць свядома, своечасова, годна. Маё адчуванне, што гэты крок зараз проста неабходны. Каб захаваць павагу да сябе, нават з улікам таго, што БАЖ — неад'емная частка майго жыцця.

Я неверагодна ўдзячная тым, з кім была побач гэтыя 20 гадоў.

Я б хацела сваім сыходам падвесці своеасаблівую рысу пад перыядам у гісторыі БАЖ, звязаным з няспынным пераследам людзей нашай прафесіі, жорсткім дзяржаўным рэгуляваннем і ўмяшаннем у нашую працу. Вельмі хочацца спадзявацца, што самыя жорсткія выклікі і выпрабаванні, трагічныя падзеі засталіся ў мінулым.

Я бачу, што вырасла новая генерацыя журналістаў, лідараў БАЖ, якія здольныя адказваць на выклікі часу.

***— Не сакрэт, што значная частка сяброў арганізацыі лічыць Вашы аргументы слабымі. Легендарны Аляксей Сіманаў узначальвае «Фонд абароны галоснасці» з 1991 года, а Людміла Аляксеева Маскоўскую Хельсінкскую групу — з 1996-га. Чаму Вы пакідаеце пасаду старшыні?***

— Для мяне вялікі гонар, калі Вы паставілі маё імя побач з гэтымі славутасцямі. Мой сыход з пасады зусім не азначае, што лёс журналісцкай арганізацыі будзе мне абыякавым. Я застаюся ў БАЖ. І буду вельмі радая, калі акажуцца запатрабаванымі мае досвед і ўзважанасць.

***— Як бы Вы сфармулявалі новыя выклікі, што паўсталі перад беларускай журналістыкай?***





— Яшчэ нядаўна мы казалі, што інтэрнэт застаецца сферай свабоднага абарачэння інфармацыі. З прыняццем паправак у закон «Аб СМІ» ў сярэдзіне снежня 2014 года сітуацыя рэзка пагоршылася. Амаль адначасова з прыняццем паправак, яшчэ да ўступлення іх у сілу, былі заблакаваныя больш за 10 інфармацыйных рэсурсаў. Журналісцкая супольнасць успрыняла гэта як акт цэнзуры, як тэст на рэакцыю грамадства. Мой калега Аляксандр Класкоўскі слушна заўважыў: «Што б ні рабілі беларускія ўлады з заканадаўствам, усё адно атрымліваецца аўтамат Калашнікава». Аднак, нягледзячы на ўсе спробы ўвесці абмежаванні, інтэрнэт застаецца і, упэўненая, застанецца адным з галоўных інструментаў распаўсюду інфармацыі, абмену думкамі.

Журналісты без акрэдытацыі — найменш абароненая частка нашай прафесійнай супольнасці, так бы мовіць, «лёгкая здабыча». Іх затрымліваюць, папярэджваюць, судзяць, штрафуюць. З красавіка мінулага года ў дачыненні да рэпарцёраў, чые імёны і матэрыялы з'яўляюцца ў замежных СМІ, пачалі выкарыстоўваць артыкул 22.9 Адміністрацыйнага кодэкса — «Незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ». Толькі летась паводле яго ўзбудзілі 14 адміністрацыйных спраў. Напрыклад, для нашага калегі Аляксандра Буракова размяшчэнне публікацыі на сайце «Deutsche Welle» скончылася судовымі слуханнямі, выклікамі ў падатковую, «аглядам» кватэры, вынасам аргтэхнікі. Хваля пераследу за працу без акрэдытацыі працягваецца і сёлета: я маю на ўвазе справы супраць нашых рэгіянальных калег Тамары Шчапёткінай, Аліны Літвінчук, Ларысы Шчыраковай, Алеся Ляўчука...

Узмацненне ціску на журналістаў «непадцэнзурных» СМІ сведчыць пра набліжэнне прэзідэнцкай кампаніі. Мы ўжо прызвычаіліся, што электаральныя кампаніі для нас звязаныя з пагаршэннем умоваў працы, абмежаваннем доступу да інфармацыі, з цэлым шэрагам перашкодаў і бар'ераў.

Як ніколі, сёлета давядзецца ўлічваць і расійска-ўкраінскі канфлікт, у звязку з чым інфармацыйная прастора апынулася пад уплывам агрэсіўнай прапагандысцкай машыны суседняй краіны.

Расійская прапаганда патрапіла на «ўрадлівую» глебу, апрацаваную доўгімі гадамі барацьбы з унутранымі апанентамі і ўплывам Захаду. Высветлілася, што ў беларускім грамадстве адсутнічае крытычнае стаўленне да прапаганды, няма імунітэту да навязвання канцэпцыі «русского мира». Усё гэта прывяло да дэзарыентаванасці нашых суайчыннікаў. Чаго толькі вартыя вынікі леташняга сацыялагічнага даследавання НІСЭПД: 62,2 % апытаных беларусаў успрынялі анексію Крыма як «гістарычную справядлівасць».

Маніпуляванне інфармацыяй набыло пагрозлівы характар для журналістыкі як прафесіі. І таму сёння, як ніколі, незалежная журналістыка павінна выразна адмежавацца ад «байцоў інфармацыйных войнаў» і дэманстраваць высокія стандарты прафесіі.

***— Задам даволі простае пытанне: навошта сёння беларускаму журналісту БАЖ?***

— Думаю, тым журналістам, якім была патрэбна канкрэтная дапамога і якія атрымалі яе ў БАЖ, вельмі лёгка адказаць на гэтае пытанне. Такіх людзей шмат. Я кажу пра тых, хто звяртаўся да нас па юрыдычную падтрымку, прайшоў праз нашы адукацыйныя праграмы, удзельнічаў у шматлікіх прэс-турах, фестывалях і іншых карпаратыўных мерапрыемствах. І гэта толькі тое, што навідавоку.

Але ёсць вялікі пласт карпатлівай і не заўсёды ўдзячнай працы, якая вядзецца няспынна. Гэта маніторынг парушэнняў правоў СМІ, які дазваляе ацаніць маштабы той ці іншай праблемы і своечасова сігналізаваць пра яе. Гэта наладжванне кантактаў з дзяржаўнымі органамі, якія прымаюць рашэнні. Гэта падрыхтоўка юрыдычных ацэнак і фармуляванне пэўных прапаноў дзеля ўдасканалення прававой базы. Гэта шырокае інфармаванне пра нашы «болевыя кропкі», якія вымагаюць увагі з боку міжнароднай супольнасці.

На шчасце ці на жаль, усё больш актуальным робіцца прафсаюзны кірунак дзейнасці БАЖ: падрыхтоўка супрацоўнікаў рэдакцый для вядзення перамоваў з працадаўцамі, дапамога ў фармуляванні рэдакцыйнай палітыкі, у вырашэнні ўнутрырэдакцыйных канфліктаў...

Я хачу падкрэсліць адну даволі простую, але істотную рэч. БАЖ — гэта не толькі «цэнтральны офіс». Гэта мы з вамі, кожны сябра нашай арганізацыі. І ад кожнага з нас залежаць устойлівасць і падвышэнне аўтарытэту арганізацыі. Кожны, хто мае намер уступіць у БАЖ ці ўжо з'яўляецца яе сябрам, мусіць асабіста для сябе вырашыць, навошта яму Беларуская асацыяцыя журналістаў, чым ён будзе ў ёй займацца, а таксама — што зможа зрабіць для далейшага развіцця і ўмацавання арганізацыі.

# Мы — разам!

## Сябры Лунінецкай філіі пра БАЖ



*Святлана ГАРДА,*
*рэдактар партала «Медиа-Полесье»,*
*старшыня Лунінецкай філіі ГА БАЖ*

Лунінец — райцэнтр на Палессі, ад якога, што да абласнога цэнтра — Берасця, што да Мінска — па 240 км. «Правінцыя» — чуем іншым разам. Але ж не адчуваем ні геаграфічнай аддаленасці, ні абмежаванасці ў творчым росце, бо ёсць арганізацыя, у якой згуртаваліся аднадумцы, — ёсць БАЖ.

Лунінецкая філія — адна з першых, утвораных у рэгіёнах. Пачыналася з некалькіх сябраў, вырасла да 17. Нехта прыходзіў, нехта сыходзіў… Летась памёр наш калега Віктар Філатаў, адзін з тых, хто стаяў ля вытокаў стварэння філіі…

У нас разумная і матываваная моладзь. І дысцыплінаваная, што немалаважна, бо традыцыі існуюць, каб іх захоўваць. Прыемна, што няма ўзроставай субардынацыі, пры тым, што, скажам, Сцяпану Нефідовічу — 73 гады, а Валянціна Чашэйка — равесніца БАЖ, ёй 20.

Лунінецкія бажаўцы ў большасці працуюць у двух мясцовых незалежных выданнях: штотыднёвіку «Информ-прогулка» і інтэрнэт-партале «Медиа-Полесье», але, напрыклад, Алена Насковіч — кіраўніца ўласнага рэкламнага агенцтва, а Ірына Гардзіевіч — урач цэнтральнай бальніцы. І менавіта падчас бажаўскіх мерапрыемстваў мы можам абмеркаваць справы, павучыцца ў больш дасведчаных калег альбо прыдумаць нейкую ўласную ініцыятыву.

Што менавіта для мяне БАЖ? Гэта тая структура, якая дала мне магчымасць узысці ў прафесіі на пэўную ступень. У свой час мяне не ўзялі ў «раёнку» (пасля ВНУ іншых варыянтаў не было) — не ўпісалася па ідэйных прынцыпах. Аднадумцаў сабраў Андрэй Вышынскі, заснаваўшы ў Лунінцы незалежную газету. Дзякуй яму за гэта. Але ж, калі б не БАЖ, не было б мастоў, пабудаваных паміж сталіцай і рэгіёнамі, не было б магчымасці стаць адным з журналісцкай супольнасці — дасведчанай і абароненай.

Дзякуючы адукацыйным праграмам БАЖ мы атрымліваем тыя веды, якіх не дае журфак. БАЖ — як лепшы сябра: дапаможа ў цяжкую хвіліну, у добрую — падзеліць радасць.

Неаднаразова наша Лунінецкая філія становілася пераможцам сярод філій і суполак БАЖ па выніках года. У мяне пытаюцца, у чым наш сакрэт. Адказваю: нішто так не псуе жыццё, як пасіўнасць. Мы не псуем свае жыццё. Ёсць у нас свае ноу-хау, як, напрыклад, прэс-туры на байдарках, круглыя сталы з удзелам журналістаў і пісьменнікаў. Акцэнт робім на міжрэгіянальных мерапрыемствах.

## Сябры філіі пра БАЖ



### Андрэй Вышынскі:

*— У свой час давялося быць каля вытокаў стварэння Беларускай асацыяцыі журналістаў, а трохі пазней — і яе Лунінецкай філіі. За гэтыя гады колькасць сябраў значна вырасла. А галоўнае, што сябры БАЖ, і я ў тым ліку, падвысілі свой прафесійны ўзровень, атрымалі новыя навыкі, у тым ліку дзякуючы сталаму ўдзелу ў семінарах, трэнінгах. Добра, што праз БАЖ да журналісцкай супольнасці далучыліся не толькі штатныя супрацоўнікі сродкаў масавай інфармацыі, але і людзі іншых прафесій. А ўвогуле хацелася б, каб БАЖ стала прафесійным журналісцкім саюзам, як гэта ёсць у многіх краінах.*



## Сцяпан Нефідовіч:

*— Па-першае, у дружным калектыве нашай Лунінецкай філіі я, лічу, развіўся творча, прафесійна вырас і ўзмацнеў. Наогул, гэтая грамадская арганізацыя дае магчымасці развівацца многім людзям, у тым ліку і моладзі. Карыснымі былі семінары з удзелам гасцей з іншых рэгіёнаў, знаёмствы з цікавымі, творчымі людзьмі, у тым ліку падчас прэс-тураў на байдарках, якія мы ладзілі на Лунінеччыне некалькі гадоў запар. Шмат карыснага для развіцця, пашырэння кругагляду дае і часопіс «Абажур», які пастаянна чытаю.*

## Андрэй Сыцін:

*— Сваё захапленне футболам сумяшчаю са спартовай журналістыкай. БАЖ для мяне — перадусім магчымасць кантактаваць з калегамі, якія пішуць пра спорт і самі ім займаюцца. Шмат разоў прымаў удзел у футбольных турнірах у складзе зборнай БАЖ на прызы Карпенкі, Шырокава. І спадзяюся, што ў далейшым прымножым нашыя спартовыя бажаўскія поспехі.*



## Галіна Самуйлік:

*— З той прычыны, што журналісцкай адукацыі не маю, на пачатку працы ў газеце мне было няпроста, шмат чаму давялося вучыцца. Не магу не падзякаваць БАЖ за арганізацыю семінараў, трэнінгаў, прэс-тураў, падчас якіх зносіны з калегамі з іншых СМІ істотна ўзбагацілі мой журналісцкі досвед. І цяпер па-ранейшаму імкнуся звяртацца па дапамогу да калегаў па нашай філіі БАЖ, калі ўзнікае такая неабходнасць. Ведаю, што яны мяне заўжды падтрымаюць.*

## Людміла Хмялеўская:



*— З уступленнем у БАЖ з’явілася магчымасць прымаць удзел у розных трэнінгах, у тым ліку і ў дыстанцыйным навучанні. Мела справу і са школай маладога журналіста ў нашым рэгіёне, якая праводзілася пры ўдзеле БАЖ. Цешуся, што ўдалося паўдзельнічаць у майстар-класах сапраўдных прафесіяналаў. Да амплуа чалавека, які піша, дадала ў выніку навыкі фота- і відэажурналістыкі, што вельмі дапамагае ў працы. А часопіс «Абажур» — добрая пляцоўка для дыскусіяў, трыбуна для творчых людзей. Усё гэта дазваляе не замыкацца ў межах свайго рэгіёна, выходзіць на іншыя выданні, сайты.*




## Максім Гарда:

*— Толькі ў мінулым годзе далучыўся да БАЖ. Скончыў тэхнічную ВНУ, але сталася так, што прыйшоў у творчасць, займаюся фота-відэажурналістыкай. Вучуся, удзельнічаю ў адукацыйных праграмах, пазнаёміўся з многімі цікавымі людзьмі — і ўсё гэта, дзякуючы БАЖ.*



# Скажы, хто твой брат

(Заканчэнне. Пачатак у № 1 (109))



*Уладзімір ДЗЮБА*

**Ласкавае сонца ўсё часцей прабіваецца скрозь шэрае неба. І так хочацца, каб доўгачаканая вясна развеяла дым вайны. Але цуда не адбываецца, стрэлы ў прыфрантавой зоне на ўсходзе Украіны не сціхаюць, як і бясконца ліслівыя прамовы «палітыкаў-міратворцаў». Тым часам інфармацыйная вайна на расійскіх тэлеканалах узмацнілася: ужо больш як год у адрас Украіны пастаянна гучаць абразлівыя абвінавачванні. Парадаксальна, але з вуснаў адыёзных палітыкаў часта гучаць выказванні пра «брацкі» ім украінскі народ. Асабіста мяне гэтая крывадушнасць абурае. Бо брат у брата зямлю не адбірае, брат брата не забівае…**

## Гісторыя пра тое, як усплыла праўда

Пранырлівыя журналісты бегалі па пірсе і вылоўлівалі з вады аркушы паперы: цыдулкі з лічбамі ў грыўнах і доларах, распіскі, розныя рахункі ды запісы — хто з набліжаных да ўлады і якую нерухомасць атрымаў ці якую «падзяку» прынёс. Хутка зразумелі, што на дне вадасховішча, на беразе якога стаіць Міжгор’е — рэзідэнцыя прэзідэнта Украіны Януковіча, — нешта схавана. Журналісты спрабавалі даць нырца, але вада была надта сцюдзёная. Тады выклікалі з Кіева дайвераў, якія прыехалі з поўнай амуніцыяй і паднялі на паверхню дзясяткі тэчак ды папяровых стосаў, моцна перацягнутых вяроўкай. Вуглы гэтых дакументаў былі абгарэлыя, па ўсім было відаць, што іх спрабавалі спаліць. Аднак з фізікай хаўруснікі Януковіча дакладна не сябравалі, інакш бы ведалі, што спрасаваная папера не гарыць, а толькі тлее (нестае кіслароду). Таму ў спешцы ўвесь папяровы кампрамат яны папросту ўтапілі. Аднак бацька-Дняпро, які падсілкоўвае вадасховішча, з агідай выплюнуў паперы з «рэзалюцыямі» Януковіча, чым канчаткова паставіў крыж на іміджы «памяркоўнага і сумленнага прэзідэнта».

Потым гэтыя дакументы спрабавалі высушыць з дапамогай цеплавых гармат, што стаялі ў вялікім элінгу побач з яхтамі ды катарамі. Аднак лепш за ўсё гэты працэс удалося наладзіць у гасцявым доме, дзе ў лазні былі паліцы з падагрэвам. Валанцёры ды журналісты завіхаліся над гэтай папяровай «спадчынай» не адны суткі. Потым, каб забраць высушаныя дакументы, на легкавіку прыехалі супрацоўнікі Генеральнай пракуратуры. А калі ўбачылі аб’ём «грузу», вярнуліся ў Кіеў, каб замовіць самазвал.

У апартаментах прэзідэнта, які за дзень да таго, як Міжгор’е наведалі майданаўцы, уцёк у Расію, знайшлі залаты медаль з выявай Януковіча вагой у кілаграм. Потым натрапілі на батон з золата… Па меркаванні ўкраінскіх журналістаў, дарагія карціны, рарытэтны посуд, скульптуры і залатыя батоны былі не галоўнай каштоўнасцю для Януковіча і яго атачэння. У верталёт, на якім ён уцёк, перш за ўсё стараліся загрузіць «зялёную» наяўнасць — на бесклапотнае жыццё ў выгнанні.

Але знаходкай, якая здзівіла ўсіх, аказаўся звычайны сшытак. У спешцы яго пакінулі на стале ў доме, дзе жылі ды бавілі час вартаўнікі. Падкрэсліваю, менавіта вартаўнікі, а не целаахоўнікі прэзідэнта. У тым сшытку «брыгадзір» пазначаў сумы заробку, якія, трэба думаць, дзялілі

на ўсіх: адзін месяц — 100 $ тысяч, наступны — 200 $ тысяч… А пенсія ва Украіне тады складала 1300 грыўнаў, прыблізна 80 долараў у эквіваленце. Зразумела, што ўся інфармацыя пра «сціплае» жыццё-быццё «народнага» прэзідэнта тут жа патрапіла ў інтэрнэт.

Гэтую гісторыю расказалі сведкі тых падзей, адзін з іх Алег Хамянок — выкладчык, эксперт СМІ, вельмі інтэлігентны і адукаваны чалавек. Пазнаёміліся мы з ім у Чарнігаве год таму, калі спадар Хамянок вёў семінар «Эканамічная журналістыка». Гэта было на пачатку сакавіка, акурат за некалькі дзён да анексіі Крыма. Я бачыў, як адсочвалі інфармацыю ў інтэрнэце і ён, і прэзідэнт Акадэміі ўкраінскай прэсы Валерый Іваноў, як яны перажывалі ў прадчуванні вялікай бяды, але выгляду не падавалі.

## Прычыны і вытокі

Пазней я дапытваўся ў прадстаўнікоў украінскай інтэлігенцыі, чаму людзі ўсё ж такі выйшлі на Майдан, чаму так хутка выпарыўся аўтарытэт Януковіча?

І пачуў, што Украіну паміж сабой падзялілі кланы, галоўным з якіх быў клан Януковіча. Апошні падмяў пад сябе аўтамабільны бізнес, буйную сетку супермаркетаў, банкі, прыватныя стаматалагічныя паслугі і г. д. Падалося мала, тады вырашылі падмяць пад сябе яшчэ малы і сярэдні бізнес. Цярплівасць людзей лопнула, яны пачалі ўспрымаць уладу як нахабную і ненажэрную карупцыйную морду. Бо хабарніцтва і кланы панавалі паўсюль — у пракуратуры, судах, паліцыі, дзяржаўтаінспекцыі, арміі, якую ўшчэнт разрабавалі. Са звычайнага ж грамадзяніна дралі, як маглі, і праўды дабіцца было немагчыма нідзе!

І выйшлі людзі на Майдан, які стаў сімвалам ачышчэння краіны ад карупцыйнай навалачы. А калі спецназаўцы іх жорстка збілі, паднялася чарговая і яшчэ больш моцная пратэставая хваля. Рэакцыя ўладаў была жорсткай: снайперы пабарвавалі плошчу крывёй Нябеснай Сотні, якая палягла за свабоду і незалежнасць Украіны. Думаю, не варта пераказваць далейшае развіццё падзей, пра якія большасць чытачоў «Абажура» добра ведае.

Галоўнае ў тым, што ўкраінцы знайшлі ў сабе смеласць і мужнасць выступіць супраць алігархічнага рабавання Украіны, духоўнага збяднення нацыі, супраць знявагі ды маральнага прыгнёту, як казалі мае суразмоўцы, банды, якая кіравала краінай. Майдан для мільёнаў украінцаў — гэта Рэвалюцыя Годнасці.

Пра што, зразумела, ніколі не расказвалі і не раскажуць федэральныя расійскія тэлеканалы.

## Школа фарысейства

Больш за год я адсочваў інфармацыйныя выпускі ды палітычныя «ток-шоў», прысвечаныя вайне на ўсходзе Украіны, на каналах Расія (РТР), НТВ, РБК. Аналізаваў, занатоўваў выказванні расійскіх «лідараў» грамадскай думкі, гасцей і вядучых адпаведных тэлепраграм. Калі паведаміў пра гэта калегам, то пачуў: «Ты што, звар'яцеў?! Гэта ж не журналістыка, такое глядзець проста немагчыма…» Так, псіхалагічна было вельмі цяжка, але я назіраў, як хутка вядомыя расійскія тэлежурналісты ператвараюцца ў прапагандыстаў: як страчваюць сумленне, прафесійную годнасць, становяцца палітычна заангажаванымі і гатовымі чорнае зрабіць белым.

На пачатку «прамой лініі» з Уладзімірам Пуціным, якую расійскія тэлеканалы транслявалі 14 красавіка 2014 г., абвясцілі, што адной з галоўных тэм будзе «сітуацыя ва Украіне, дзе разгараецца грамадзянская вайна і адбываецца генацыд». А на пытанне, як расійскі



прэзідэнт ацэньвае тое, што «зараз адбываецца ў Данецкай, Луганскай абласцях…», Пуцін адказаў: «Пачаліся беспарадкі, якія прывялі да канстытуцыйнага перавароту. Усплёскі нацыяналізму… Была спроба адмяніць выкарыстанне рускай мовы».

І ні слова пра жорсткае збіццё студэнтаў на Майдане, пра тое, што на плошчу выйшлі не падлеткі, а кіяўляне, сярэдні ўзрост якіх быў 35–50 гадоў. І рускую мову, між іншым, ніхто і нідзе не адмяняў, пра што пагаворым крыху ніжэй.

Яшчэ колькі важных, *ключавых* цытат з тых выказванняў: «Людзі, якія жывуць у Крыме, адчулі *матэрыяльную* выгоду…», «Канечне, за спінай самаабароны сталі *нашы ваеннаслужачыя*…» Навошта «сталі» і што трымалі ў руках расійскія вайскоўцы — даўно вядома. Хаця цягам года сотні разоў вядучыя Уладзімір Салаўёў і Яўген Папоў (апошні вядзе праграму «Спецыяльны карэспандэнт», РТР) гучна абвяргалі ўдзел расійскіх салдат у ваенных аперацыях на ўсходзе Украіны і ў Крыме. Яны робяць гэта і сёння, нават пасля зусім нядаўняга прызнання галоўнакамандуючага расійскімі войскамі пра «баталіі» на паўвыспе. Цытую паводле «Народнай Волі» ад 17 сакавіка 2015 г.: «Для того чтобы блокировать и разоружить 20 тысяч человек, конечно, нужен определенный набор личного состава, и не просто по количеству, но и по качеству… Поэтому я дал поручения и указания Министерству обороны — чего скрывать, под видом усиления охраны наших военных объектов в Крыму — перебросить туда спецподразделения ГРУ и силы морской пехоты, десантников».

Для расійскіх тэлевядучых Салаўёва і Папова перабіць на паўслове запрошанага ў тэлестудыю чалавека, які крытычна выказваецца пра дзеянні Расіі, — звычайная справа. Адзін з улюбёных прыёмаў Салаўёва: «Дзе здымкі з космасу?! Іх няма! Перакінуць расійскую ваенную тэхніку ва Украіну ўпотайкі проста немагчыма!» Аднак — перакінулі…

У ноч на 30 студзеня гэтага года ў праграме «Спецыяльны карэспандэнт» апалагеты «крамлёўскай дэмакратыі» надта раз'юшыліся, калі на пытанне пра «палітычную волю» ўкраінскі эксперт Вячаслаў Коўтун адказаў, што «…ва ўкраінскага народа ёсць воля. Выконвайце Мінскія пагадненні!» То бок выводзьце з тэрыторыі Украіны вайсковыя фармаванні, наймітаў-кантрактнікаў і цяжкае ўзбраенне. Што тут пачалося! Істэрычна крычаў Канстанцін Далгоў, сустаршыня Народнага фронта Навstatic Наваросіі; нервова мітусіўся «палітолаг» Кургенян і таксама крычаў; нешта хацеў данесці да аўдыторыі старшыня Народнага савета так званай ДНР Андрэй Пургін, аднак дарэмна, з прычыны вэрхалу яго ніхто не чуў. Злосць і нястрыманасць захліснулі студыю…

Вячаслаў Коўтун, скарыстаўшы секунднае зацішша: «Дайце хоць слова сказаць!..»

«Вы і так шмат гаворыце!» — рэзка абарваў памкненні ўкраінскага госця Яўген Папоў.

Аляксандр Праханаў, галоўны рэдактар газеты «День», запінаючыся: «Вайна за Данбас — гэта вайна за Расію, вайна за Маскву!» Гэтае шчырае прызнанне лагічна пераплялося з выказваннем намесніцы дырэктара Дэпартамента інфармацыі МЗС Расіі Марыі Захаравай: «Расія маніторыла і будзе маніторыць усё, што адбываецца ва Украіне! Мы будзем бараніць сваю краіну!» І, што называецца, яшчэ адна цытата ў тэму: «Трэба працаваць не толькі з Украінай, трэба працаваць таксама з Беларуссю». Словы гэтыя прагучалі ў адной з тэлепраграм, дзе бралі ўдзел намеснік старшыні Расійскай Дзярждумы Сяргей Жалязняк і кінарэжысёр, заслужаны артыст Расіі Карэн Шахназараў, які мяне таксама здзівіў: «Ідзе барацьба Расіі і Захаду за Украіну. Украінскі народ хочуць ператварыць у манкурта… Навязаць еўрапейскую культуру. Няма ніякай еўрапейскай культуры!» Зразумелі? Ёсць, мабыць, толькі расійская. А мы наіўна верылі, што знаходзімся ў цэнтры Еўропы. Відаць, некаторыя прадстаўнікі расійскай «эліты» вызначылі нам іншае месца. Мо так і трэба?

Затыканне ртоў, раздражняльнасць і няздольнасць успрымаць думкі апанентаў — агульная рыса многіх грамадска-палітычных праграм на расійскіх тэлеканалах.

Пасля прагляду некалькіх дзясяткаў такіх перадач узнікла адчуванне, што расійскія прапагандысты пастаянна хочуць адмыцца… Толькі цяжка было вызначыць — ад чаго дакладна. Мо яны хочуць завуаляваць ролю Расіі ў гэтай вайне? А які ў тым сэнс, калі праўду ведаюць і кіраўнікі, і мільёны грамадзян у краінах СНД і Захаду. Аднак нездарма кажуць, што на злодзеі шапка гарыць.

Расійская салаўёўшчына-папоўшчына, як і беларуская зімоўшчына, — з'явы не новыя. Перажывем. Хвалюе толькі, каб маладыя калегі не пераблыталі сапраўдную журналістыку з фарысействам і не падхапілі вірус, які беззваротна забівае прафесію.



# Кібаргі

Спачатку пра «сакрэт», які дапамог мне абараніць псіхіку падчас прагляду шматлікіх прапагандысцкіх пасажаў. Ён просты: я глядзеў іх па прынцыпе «люстэрка», бо ведаў, што ў вайны ніколі не бывае толькі адной праўды. Што ўсе жахі, якія паказвалі і яшчэ будуць паказваць федэральныя расійскія тэлеканалы, адбываюцца таксама і на не падкантрольнай сепаратыстам тэрыторыі. Дзе старыя і дзеці таксама хаваюцца ў склепах ды бомбасховішчах ад снарадаў, якія прылятаюць з боку ДНР. Тут, па другі бок фронту, які абараняецца, таксама хаваюць загінулых, якіх нашмат больш. Як, дарэчы, і зруйнаваных сепаратыстамі ўкраінскіх гарадоў ды пасёлкаў, якія яны штурмавалі. Пра што расійскія тэлеканалы ніколі не гаварылі і не будуць гаварыць, бо гэта не «іх праўда».

Ім заказваюць іншае.

Напрыклад, інфармацыю пра Данецкі аэрапорт, якая адкрыла 1 верасня 2014 г. вечаровы выпуск «Анатоміі дня» на НТВ: «Ёсць інфармацыя, што аэрапорт абараняюць найміты з Польшчы, якіх налічваецца ад 500 да 3000 тысяч чалавек…» Гэта было чарговай хлуснёй. Але галоўнае — зашпурнуць «дэзу» у шматмільённую аўдыторыю, бо замбаванне насельніцтва — асноўная мэта інфармацыйнай вайны.

Уладзімір Салаўёў даволі часта ў «сваіх» праграмах пра вайну ва Украіне — іншых ён цяпер не вядзе — ужывае ярлык «бандэраўцы і шухевічы» як універсальны папрок усім украінцам. А яшчэ пастаянна ўзгадвае, што Сцяпана Бандэру абвясцілі нацыянальным героем і паставілі яму помнік. То бок трэба разумець, што ва Украіне ці не кожны другі «экстрэміст-бандэравец», страшны чалавек.



…Нядаўна мне даслалі фатаграфіі байцоў, якія адбівалі атакі баевікоў у Данецкім аэрапорце 242 дні. Відаць, гэтыя здымкі фатограф зрабіў падчас кароткай франтавой перадышкі, бо тэрміналы абстрэльвалі нават тады, калі падпісваліся Мінскія пагадненні. За мужнасць і стойкасць ворагі назвалі ўкраінскіх салдат кібаргамі. Ім прапанавалі здацца, але яны адмовіліся і вырашылі выканаць свой воінскі абавязак да канца.

Я ўглядаюся ў добразычлівыя, адкрытыя, пакрытыя парахавым гарам твары… Кожны з гэтых людзей пакінуў родны кут, каханых, дзяцей ці нават унукаў і пайшоў насустрач да зубоў узброенаму агрэсару. Не за грошы, не за інтарэсы алігархаў ці прэзідэнта, а за Сваю Украіну. Бо яны былі і засталіся годнымі грамадзянамі і Салдатамі Айчыны.









Многія ўсміхаюцца, відаць, на жарты ці словы падтрымкі валанцёраў, якія прывезлі, як тут кажуць, «гуманітарку». Ці паднялі настрой цёплыя пісьмы з дому і дзіцячыя малюнкі? На жаль, некаторыя з іх больш не ўбачаць гэтых лістоў, бо ім выпала сустрэць гэтую вясну ў паднябессі...

Калі баевікі з дапамогай буйной артылерыі зруйнавалі стары тэрмінал аэрапорта, кібаргі перайшлі ў новы, другі паверх якога быў апошняй пляцоўкай, адкуль іх ніяк не маглі выбіць. Тады, 19 студзеня 2015 г., сепаратысты, не шкадуючы, «па-брацку», залажылі пад ніжнія апоры выбухоўку і падарвалі нязломных байцоў. А 22 студзеня будынак поўнасцю рухнуў, накрыўшы брацкую магілу ўкраінскіх герояў дзясяткамі тон бетону…

Светлая ім памяць. Дай Бог кожнаму так біцца за сваю родную зямлю, як біліся ўкраінскія кібаргі.

Ці не лепш быць «кібаргам» у любой прафесіі, у тым ліку і ў журналістыцы, чым інтэлектуальнай ды лісліват «тэлекудлай» (па-руску «телешавкой»).





# Час збіраць камяні

Што такі час наспеў, добра разумеюць мільёны людзей ва ўсім свеце. У славянскіх краінах-суседках — Украіне, Расіі, Беларусі — тым больш. Гэтага не разумеюць хіба што ачмурэлыя ад расійскай прапаганды «індывідуумы» ды палітыкі, якія развязалі гэтую братазабойчую вайну. На жаль, яна працягваецца і скончыцца няхутка. Нават тады, калі сціхнуць стрэлы і апошні салдат пакіне акопы. Бо фронт перамясціўся ў грамадства…

Я ведаю некалькіх беларусаў, якія прынцыпова не купляюць расійскую прадукцыю. Іншыя — наадварот, адмаўляюцца ад украінскіх тавараў. Зразумела, што такіх людзей не адзінкі, іх нашмат больш. Гэта, калі хочаце, іх унутраны пратэст. Скажаце: дурдом! — і не будзеце мець рацыі. Бо вайна пачалася ў галовах людзей, чаго і дабіваліся апантаныя прапагандысты.

«Украіна прайграла Расіі інфармацыйную вайну», — з горыччу сказалі мне ўкраінскія журналісты, бо многія паверылі ў бесклапотны «расійскі рай». Гэтую інфармацыйную вайну прайграла і Беларусь, бо ўсплёскі нянавісці да міфічных «бандэраўцаў ды шухевічаў», як і раскол у нашым грамадстве, таксама навідавоку.

Крыху больш за месяц таму я зноў наведаў Украіну. У горадзе Канеў, што на Чаркашчыне, была сустрэча з дэпутатам Вярхоўнай Рады Украіны Аляксандрай Кужэль (фракцыя партыі «Бацькаўшчына», якая ўваходзіць у блок Пятра Парашэнкі). Яна паплечніца былога прэм’ера Юліі Цімашэнкі, якая пры Януковічы два з паловай года правяла ў турме і «вельмі перажывала здраду».

Аляксандра дакладна фармулюе думкі, гаворыць лагічна, бачна, што не першы год у палітыцы. На Чаркашчыне яна сустракалася з прадпрымальнікамі, працавала, як сама прызналася, на імідж прэзідэнта. Чаго, аднак, не скажаш пра яе стаўленне да алігархаў і ўрада.

— Сёння ва Украіне 4 % багатых людзей, у ЗША — 1 %, — расказвае Аляксандра Кужэль. — Таму наша партыя прапанавала, каб заработная плата чыноўнікаў не перавышала заробак грамадзян больш, чым у 10 разоў. Напрыклад, калі звычайная пенсія складае 1300 грывен, заробак чыноўніка павінен быць не больш як 10–13 тысяч грывен.

Сёння ўкраінскія манапалісты крадуць 30–40 % літаральна ва ўсіх сферах: пры пастаўках газу, паліва, прадуктаў харчавання… Разам з тым павышаецца плата за спажыванне электраэнергіі, вады, за эксплуатацыю дарог. Усё гэта кладзецца на плечы грамадзян, і мы выступаем супраць такой палітыкі. І навядзём парадак! Усё трэба рабіць з любоўю да народа, інакш нічога не атрымаецца.

— Што вы думаеце пра Майдан?

— Мы, палітыкі, Майданам не займаліся. Проста людзі, якія выйшлі на плошчу, дазволілі нам стаяць з імі побач. Каб не было спекуляцый, адразу скажу, што пасля Майдана дэпутаты прагаласавалі за прыняцце моўнага закона, аднак гэты закон не прынялі! Ніхто і нідзе прымусам украінскую мову не навязваў! Аднак запалаў Крым, потым — Луганск, Данбас… У мяне тры ўнучкі, мы іх ніколі не агітавалі супраць Расіі. Аднак яны самі разабраліся, што да чаго, і цяпер будуць ненавідзець Расію.

Яшчэ адзін сумны вынік гэтай вайны — нянавісць. З абодвух бакоў. Нават калі скончыцца вайна, яшчэ доўгія гады цяжкі груз успамінаў будзе ціснуць і на Украіну, і на Расію. Бо дараваць адзін аднаму пакуль ніхто не гатовы. Тым больш, што жоравы гэтай вайны яшчэ круцяцца. Тым больш, што на агаленыя раны Украіны штодня сыплюць соль расійскія прапагандысты. Ці спыняцца калі-небудзь?..

І як бы Расія ні адхрышчвалася ад гэтай вайны, ёй таксама давядзецца несці цяжкі груз адказнасці — эканамічны і маральны. Пры ўсіх геапалітычных раскладах братазабойніцкую вайну нельга апраўдаць нічым.

А нам, беларусам, давядзецца жыць пасярод гэтых двух палюсоў. Рабіць высновы, не паддавацца на правакацыі звонку і пазбягаць памылак. І верыць, што ў братняй Украіне ўсё наладзіцца. Асабіста я ў гэта веру.

*Фота Валерыя Сцяпанава (Украіна)*

P. S. Рэдакцыя часопіса выказвае шчырую падзяку Кіеўскаму офісу Фонду імя Фрыдрыха Эберта за арганізацыю паездкі ва Украіну.



**Не стаць марыянеткай, не запэцкацца, не страціць прафесійную годнасць у складаных жыццёвых сітуацыях здатны далёка не кожны. Здольныя на гэта выключна людзі мужныя, з непахіснай воляй і самаахвярнай верай у справядлівасць. Аляксандр Брыж, галоўны рэдактар незалежнай газеты «Данбас», не здрадзіў сваім перакананням нават тады, калі раз'юшаныя сепаратысты пагражалі яму расстрэлам.**

# Пра вайну, журналістаў і калабарацыяністаў

## Момант ісціны

Для Аляксандра Міхайлавіча гэты момант надышоў з пачаткам распаленай ва Украіне вайны. Да гэтага ён быў даволі заможным чалавекам, якому, што называецца, было што губляць. Арганізаваны ім медыйны бізнес прыносіў прыбытак, друкаванае выданне, што выходзіла ў Данецку, мела найбольшую колькасць падпісчыкаў сярод украінскіх абласных газет. Аднак прамяняць сумленне на грошы ён не пагадзіўся.

З Аляксандрам я пазнаёмілася ў горадзе Чаркасы падчас нядаўняй паездкі ва Украіну з групай беларускіх журналістаў.

***— Якім чынам Вы апынуліся ў Чаркасах?***

— Пасля таго як на нас напалі прарасійскія тэрарысты, мы былі вымушаны перамясціць наша прадпрыемства, ААТ «Газета Данбас», у іншы горад. Цяпер мы зарэгістраваныя ў Чаркасах.

Прыгадваю, як наша выданне стала незалежным у 1991 годзе, калі зрынулі кампартыю, якая панавала ў краіне. Заснавальнікам газеты стаў калектыў, і мы даволі паспяхова працавалі — выдавалі некалькі дадаткаў да газеты, што дазваляла паспяхова развівацца грамадска-палітычнаму выданню. За савецкім часам газета называлася «Сацыялістычны Данбас». А нарадзілася яна ў ліпені 1917 года, гэта найстарэйшае выданне Данбаса.

Летась сепаратысты захапілі не толькі наш будынак, але і нашу друкарню, і выдаваць газету ў Данецку было проста немагчыма.

Калі мы пераехалі, то здолелі хутка арганізаваць анлайн-рэдакцыю. Цяпер нашы журналісты працуюць у розных гарадах: у Данецку, па сутнасці, у нелегальных умовах, у Марыупалі, Дзімітрыеве, Краматорску, якія сепаратыстам захапіць не ўдалося. Вярстаем газету ў Марыупалі, а друкуем у горадзе Запарожжа. І ўжо адтуль пошта дастаўляе яе на вызваленую тэрыторыю Данецкай вобласці. Вядома, пасля расколу вобласці на дзве часткі ў захопленых сепаратыстамі раёнах пошта перастала працаваць…

Вось так я апынуўся ў Чаркасах.

## Вакзал, тэлеграф, рэдакцыя…

Жыццё ўсяго рэдакцыйнага калектыву газеты «Данбас» рэзка змянілася ў панядзелак, 2 чэрвеня 2014 года. У той дзень пасля планёркі, як звычайна, журналісты працавалі над чарговым нумарам.

Нечакана да Аляксандра Міхайлавіча зайшоў карэспандэнт і паведаміў, што ўсім трэба хутка сысці, бо да іх едуць «захопнікі — дэнээраўцы». Але Брыж адказаў, што будзем працаваць, а не хавацца.

Хутка праз акно ён убачыў, як да шматпавярховага будынка, на адным з паверхаў якога размяшчалася іх рэдакцыя, пад'ехалі аўтобус і два легкавыя аўтамабілі. Адтуль выскачылі чалавек дваццаць з аўтаматамі. Пачаўся захоп...

— Сепаратысты заходзілі на кожны паверх і адразу блакавалі ўсе кабінеты, — расказвае Аляксандр Брыж. — Яны забаранілі выключаць і ўключаць камп'ютары, карыстацца тэлефонамі. Потым пачалі затрымліваць галоўных рэдактараў. Сепаратысты адразу кідаліся да сейфаў, усё выграбалі, шукалі грошы і дакументы. Праз пэўны час — а пачалі яны зверху — дайшлі і да нас, на пяты паверх.

Да мяне зайшоў вайсковец чачэнскай нацыянальнасці, якога называлі Мансур, і яшчэ адзін, накшталт апалчэнца. Яны былі вельмі ўзбуджаныя і паводзілі сябе надта істэрычна. Пыталіся: «Дзе працуеце?! Па якіх законах жывяце?!» І калі я адказаў, што жыву па законах Украіны, то пачуў: «Усё! Тут няма Украіны, тут ёсць ДНР!» Потым мяне пад дулам аўтамата пасадзілі ў аўтобус.

***— Зразумела, вытрымаць такое было даволі цяжка…***

— Знешне я быў спакойны, аднак на душы было проста жудасна, бо ад гэтых звар’яцелых людзей можна было чакаць чаго заўгодна. Яны маглі знявечыць, маглі забіць... Напрыклад, калі адбываўся захоп, наш адказны сакратар сядзеў у навушніках і працаваў над нумарам, ён не пачуў каманды адысці ад камп’ютара. Да яго падскочыў аўтаматчык і закрычаў: "Табе якую нагу прастрэліць?!» А ў хлопца хворае сэрца, ён спалохаўся і пачаў выбачацца… Карацей, ледзь ад гэтага дзецюка адкараскаўся, каб той яго на месцы не прыстрэліў.



Аляксандр Брыж нарадзіўся ў г. Чырвоны Ліман. У газеце «Данбас» працуе 30 гадоў, больш за палову з іх — галоўным рэдактарам. Летась стаў лаўрэатам прэміі абароны свабоды слова імя Ігара Лубчанкі. Старшыня Данецкага абласнога Нацыянальнага саюза журналістаў Украіны, заслужаны журналіст Украіны. Аўтар кніг «Залатыя ледасек», «Турысцкія маршруты Данеччыны». Мае дзяржаўныя ўзнагароды.

Гэты Мансур быў вельмі істэрычны і ўсю дарогу крычаў: «Вы здзекуецеся з нас, гвалтуеце нашых жанчын, вы забіваеце нашых дзяцей, вы са сваёй прапагандай…» — і гэтак далей. Тады я спытаў: «Давайце высветлім, чаго вы ўвогуле хочаце, якія вашыя патрабаванні?» Ён падскочыў і правёў па маім твары, ад вуха да вуха, адвёрткай і сказаў: «Я б цябе з задавальненнем зараз проста забіў бы ці расстраляў!» Ён паводзіў сябе неадэкватна, і бачна было, што калі б яму развязалі рукі, то ён гэта сапраўды з задавальненнем зрабіў бы. Але, відаць, яму далі іншы загад.

Захопнікі забралі ў мяне ўсе дакументы, тэлефон і адвезлі разам з рэдактарам «Вячэрняга Данецка» ў адміністрацыю, дзе мы размаўлялі з так званым дарадцам новаспечанага прэм’ер-міністра.

Гэтым дарадцам быў Рычард Ялі, расіянін, прадстаўнік паўночных народаў (Рычард Ялі памёр у бальніцы 13 чэрвеня 2014 года пасля выбуху каля захопленага сепаратыстамі адміністрацыйнага будынка. — *Т. С.*). Яго паводзіны мала чым адрозніваліся ад паводзінаў Мансура. У адміністрацыі была размова з мэтай прымусіць нас працаваць на сепаратыстаў.

***— Вас хацелі завербаваць?***

— Гэта была не вярбоўка, а сілавы ціск, каб схіліць нас да супрацоўніцтва. Яны час ад часу пагражалі нам публічным расстрэлам у цэнтры Данецка, на плошчы імя Леніна, наўпрост ля помніка. Сказалі, што ўжо даўно хацелі арганізаваць такую акцыю: «Вось вы і будзеце першымі, каго мы там расстраляем, калі не дамовімся».

Яны прапаноўвалі пісаць пра іх «праўду». Маўляў, у нас тут цяпер ДНР, а не Украіна. Вы будзеце пісаць тое, што нам патрэбна.

А праўда ў іх такая, што ДНР — законная, што яны не тэрарысты, а вызваліцелі. І што яны прынясуць мір і шчасце нашаму народу. Яны хацелі, каб нашы выданні пра ўсё гэта пісалі. Гутарка доўжылася каля дзвюх гадзін, а потым яны нас усё ж адпусцілі. Аднаго журналіста тут жа акрэдытавалі, бо там была служба акрэдытацыі. Бачылі мы ў адміністрацыі і расійскіх журналістаў, якія працавалі ў Данецку, яны былі тут «сваімі хлопцамі».

Пасля таго як нас адпусцілі, я прыехаў у рэдакцыю, і мы вырашылі скараціць аб’ём газеты. Я падрыхтаваў інфармацыю ў нумар, што газета «Данбас» прыпыняе свой выхад. Пасля чаго ўвесь калектыў адправіў у адпачынак.

Неўзабаве разам са сваёй сям’ёй я вымушаны быў пакінуць Данецк, бо і маім родным пагражалі, казалі: «Мы ведаем, дзе ты жывеш, якая ў цябе сям’я, і, калі спатрэбіцца, мы прыедзем да цябе дадому».

## «Рускія» людзі

Аляксандр Міхайлавіч расказаў пра «рускіх людзей чачэнскай нацыянальнасці» ды іншых, якія прыехалі (ці іх прывезлі) з поўначы Расіі. Я, у сваю чаргу, распавяла яму пра тое, што ў Беларусі шмат людзей (асабліва на пачатку вайны) не верылі, што ва Украіне ваюць «чужаземныя сепаратысты». Адкуль жа яны ўзяліся ў так званых ДНР і ЛНР?

— Проста ДНР — гэта праект Расіі, — лічыць Аляксандр Брыж. — І Пуцін выкарыстоўвае ўсе адданыя яму ваенныя фармаванні. А Кадыраў і яго байцы, мне здаецца, за грошы гатовыя ваяваць у любой частцы свету. «Мы гатовыя дайсці і да Кіева», — адкрыта заяўляў Мансур. Таму падчас свята ў траўні мінулага года ў цэнтры Данецка з’явілася некалькі грузавікоў, дзе сядзелі «кадыраўцы» з аўтаматамі і крычалі: «Алах акбар!» — а потым страчылі з кулямёта, «салют» давалі. І трэба быць сляпым, каб не бачыць, што гэта былі чачэнцы, што гэта былі грамадзяне Расіі, захопнікі, якіх прывезлі разам з гарматамі, танкамі ды іншай сучаснай зброяй… Я не ведаю, чаму многія людзі ў Беларусі гэтаму не вераць. Можа, ім пра гэта проста не расказваюць?

***— Так, у нас няшмат праўдзівай, альтэрнатыўнай інфармацыі пра падзеі ва Украіне. Яе можна знайсці толькі ў незалежных беларускіх СМІ. Людзі ж у асноўным глядзяць расійскія тэлеканалы і паглынаюць тое, што ім прапануюць прыдворныя крамлёўскія прапагандысты. Да ўсяго многія лянуюцца шукаць інфармацыю ў інтэрнэце. Таму ў Беларусі шмат грамадзян не вераць у агрэсію з боку Расіі, а вінаватымі ў развязванні гэтай вайны лічаць выключна Амерыку і міфічных «бандэраўцаў». І гэта толькі адзін са стэрэатыпаў, навязаных нашаму грамадству расійскімі прапагандыстамі.***

— Зразумела. Зараз выходзіць чарговы нумар нашай газеты. Адзін наш журналіст пабываў разам з гуманітарнай дапамогай у Арцёмаўску, дзе прымалі параненых байцоў з Дэбальцава. Ён гутарыў з многімі параненымі салдатамі, і яны расказалі, што Дэбальцава захапілі прарасійскія войскі. Што супраць іх ваявалі не апалчэнцы, а прафесійныя расійскія вайскоўцы, сярод якіх былі добра ўзброеныя чачэнцы, казакі. Там украінскіх салдат накрыў масіраваны абстрэл з усіх відаў зброі, разлічаны на поўнае знішчэнне. Нашы байцы на ўласныя вочы бачылі, што менавіта расійскія вайскоўцы вялі наступ у раёне Дэбальцава. І тыя, хто вярнуўся жывым з палону, таксама сцвярджаюць, што там былі прафесійныя расійскія вайскоўцы. А жыхары нашых прыфрантавых тэрыторый у гэтым даўно не сумняваюцца.

## Калабаранты і «падпольшчыкі»

***— А ці былі ў вас у рэдакцыі калабаранты, тыя, хто перайшоў на бок сепаратыстаў?***

— Знайшоўся адзін чалавек, які працаваў у Краматорску ўласным карэспандэнтам. Раней ён доўгі час служыў у савецкай арміі, потым працаваў на тэлебачанні, пасля прыйшоў да нас. Яшчэ тады, калі «дэнээраўцы» захапілі нашы будынкі, ён пачаў пісаць матэрыялы, што народ быццам бы падтрымлівае ДНР. Але мы гэтыя артыкулы скарачалі ці ўвогуле не друкавалі, а давалі аб'ектыўную інфармацыю, пісалі пра тое, што насамрэч адбываецца. Потым ён супрацоўнічаў з мясцовай газетай у горадзе Дружкоўка, дзе рабіў інтэрв'ю з «дэнээраўцамі», пісаў, быццам бы яны сапраўдныя вызваліцелі Данбаса і гэтак далей. Так паступова ён перайшоў на бок ДНР.

Пасля гэтага мы пераcталі друкаваць яго матэрыялы, і ён публікаваўся толькі ў мясцовай газеце. А пасля таго як украінскія вайскоўцы вызвалілі Краматорск, ён пераехаў з сям'ёй у Расію. Па сутнасці, з'ехаў разам з выгнанымі захопнікамі.

***— У асноўным Вашы калегі пакінулі Данбас, але там засталося некалькі журналістаў?***

— Так, засталіся ў Данецку, бо ў іх важныя абставіны: састарэлыя бацькі, хворыя родныя, маленькія дзеці. Яны не могуць з'ехаць, ды некаторым і няма куды. У нас зараз у Данецку працуюць журналісты пад псеўданімамі. Некаторыя выехалі ў гарады, якія знаходзяцца побач з Данецкам, — Краматорск, Дзімітрава, Марыупаль. У Марыупалі некалькі нашых карэспандэнтаў, там мы зрабілі так званы штаб-сакратарыят, дзе газета прымаецца па інтэрнэце, там жа яна вярстаецца, і ўжо лічбавы макет дасылаецца на друк у Запарожжа. Шмат хто з журналістаў апынуўся ў Кіеве.

Мы вымушаны былі прыцягнуць да працы зусім невялікую групу журналістаў, бо аб'ём газеты скараціўся ў тры разы. Дый плаціць асабліва не было чым. Таму зараз на газету працуюць 5–6 журналістаў і два тэхнічныя супрацоўнікі. Цяпер выходзім раз на тыдзень.

***— Наколькі небяспечна працаваць Вашым калегам на акупаванай тэрыторыі?***

— Былі, вядома, напады на журналістаў. Калі сепаратысты прыйшлі да ўлады, яны спачатку заняліся «галоўнай» справай — захопам адміністрацыйных будынкаў: міліцыі, пракуратуры, СБУ, іншых. Потым, у сакавіку 2014 года, відаць, прыйшоў загад з Масквы, і яны пачалі захоп сродкаў масавай інфармацыі. Пачалі, як я казаў, з Данецкай абласной дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, куды прыйшлі з аўтаматамі і прымушалі генеральнага дырэктара прынесці прысягу ДНР. Ён не пагадзіўся і ўцёк адтуль, а потым увогуле з'ехаў. Тады яны прызначылі кіраўнікамі сваіх людзей, а на тэрыторыі тэлерадыёаб'яднання зрабілі ваенную базу і пачалі адтуль вяшчаць па сваіх тэлеканалах, накшталт «Наваросіі». Прымусілі правайдэраў скасаваць усе ўкраінскія каналы і арганізавалі выключна сваё «тэлебачанне».

Потым сепаратысты пачалі нападаць на друкаваныя СМІ, мабыць, быў у іх план, бо неўзабаве ў іх з'явіліся Міністэрства інфармацыі і адпаведны «міністр». Яны разгрантілі газету «Гарняк» у Тарэзе, газету ў Славянску, падмялі пад сябе незалежную газету «Правінцыя» ў Канстанцінаўцы. Там яны прыйшлі ў рэдакцыю і сказалі: «Альбо вы працуеце на нас, альбо мы вас усіх знішчым». Потым прызначылі свайго рэдактара. У тых рэдакцыях, дзе ім падпарадкаваліся, захопнікі пасадзілі сваіх кіраўнікоў-цэнзараў, якім журналісты носяць палосы на вычытку. Такім чынам, сепаратысты друкуюць толькі тое, што ім патрэбна.

Увогуле ў Данецкай вобласці былі і захопы, і абстрэлы журналістаў. Сепаратысты ў адміністрацыйных будынках і ў скляпеннях СБУ зрабілі казематы, куды кідалі людзей, там здзекаваліся з іх, трымалі ў якасці палонных, якіх потым мянялі.

То бок многія ўкраінскія СМІ зазналі вельмі жорсткі ўзброены напад з пагрозамі. І шмат хто з журналістаў, асабліва тых, хто меў патрыятычны настрой, былі вымушаны пакінуць акупаваную тэрыторыю. За імі сачылі, бо сепаратысты на дух не пераносяць нічога ўкраінскага, пачынаючы са сцяга і гімна — і заканчваючы ўвогуле анекдатычнымі выпадкамі. Адзін з іх распавёў рэдактар нашай спартовай газеты. Ён прыехаў у Данецк і выйшаў на вуліцу, каб выгуляць сабаку, на якім была камізэлька жоўта-блакітнага колеру. І адна істэрычная жанчына як закрычыць: «Што гэта ў цябе сабака з украінскім сцягам ходзіць?!» Паклікала вайскоўца з аўтаматам, той падышоў і прымусіў распрануць сабаку, прыгразіўшы гаспадару, што калі ён не выканае загад, то яго зараз жа забяруць.

***— Усё ж сепаратысты перашкодзілі дзейнасці Вашай газеты. Якой Вы бачыце яе будучыню?***

— Сапраўды, наклад газеты знізіўся ў дзесяць разоў, таму яна перайшла ў разрад стратных. На сённяшні дзень мы трымаемся на тых запасах, якія ўтварыліся ў мінулым годзе. У будучым, калі становішча не зменіцца, — я маю на ўвазе ваенную сітуацыю, — то перспектывы друкаванага выдання на тэрыторыі вобласці практычна няма. І нам давядзецца пераводзіць нашае выданне цалкам у інтэрнэт. Гэта дазволіць знізіць выдаткі і дасць магчымасць захаваць наш лагатып, наш брэнд і спадзявацца, што ў будучыні мы вернемся да выпуску паўнавартаснага друкаванага выдання.

*Гутарыла Таццяна Смоткіна*
*Фота аўтара*



# Как сохранить человечность во время войны

**Об этом «Донбасс» побеседовал с психологом-психоаналитиком, президентом и учредителем общественной организации Союз «Золотой век Украины», членом общественного совета при Министерстве социальной политики Яной БАРАНОВОЙ.**

## Нужно учиться договариваться

***— Мы привыкли жить в стабильном и благополучном крае. Однако минувший год стал для донбассовцев временем испытаний, которое, увы, не закончилось... Почему так легко был разрушен мир, а люди, еще недавно бывшие братьями-сестрами, превратились в кровных врагов?***

— Это все случилось далеко не сразу. Долгое время шел процесс манипулирования фактами, подготовки почвы... Те, кто разжег пожар войны, воспользовались нашим неумением ценить то, что имеем, мечтами донбассовцев о лучшей жизни, верой, что эту самую лучшую жизнь кто-то принесет на блюдечке. После аннексии Крыма некоторые жители Донетчины и Луганщины уверовали, что они тоже нужны РФ, что та возьмет их к себе, осыплет благами, будет холить и лелеять... Постоянное недовольство людей властью, действующей лишь в своих интересах (а со времени обретения независимости другой в Украине, увы, не было), использовали на полную катушку. Предложили что-то эфемерное, бесперспективное, заведомо ведущее в бездну конфликта. И люди «повелись». В итоге в наш обиход вошли слова «блокпосты», «Грады», «обстрелы», а количество жертв в еще недавно мирном крае исчисляется тысячами.

Пара-тройка хороших ораторов, деньги, использование политической и экономической слабости Украины, а также знание психологии толпы — и мы получили войну. Да, в ней участвуют наемники, да, действуют чужие войска. Но ведь и немалое количество донбассовцев, не реализовавших себя в нормальной, мирной жизни, взяли в руки оружие. А уж когда начали гибнуть родные и близкие, разрушаться дома, в действие вступил принцип «око за око». И никто, наверное,



сейчас не сможет сказать, когда этот кошмар закончится.

Чтобы осмыслить все, что сейчас творится на нашей земле, чтобы простить, чтобы возродить разрушенное, — нужно время. В одночасье этого не произойдет. Друзья, семья, работа, церковь, волонтерство — каждый находит свой способ утешения, поиска выхода из сложной ситуации. Сейчас нам очень важно говорить о вещах объединяющих.

***— Как сохранить человечность во время войны? Как не потерять семью, если родные люди стоят по разные стороны баррикад?***

— Действительно, таких семей сейчас много — и среди переселенцев, и среди тех, кто остался в зоне проведения так называемой АТО. Люди, живущие под одной крышей, занимают разные позиции. Случается, что споры заканчиваются разлукой — на время или навсегда. Главное во время подобных смутных времен — помнить, что мы ЛЮДИ и что самое важное, чего хотим все мы, невзирая на наши пристрастия, — мир, спокойствие, достаток. Прежде всего, нужно начинать сглаживать конфликт на внутреннем уровне. Каждая из сторон должна понять, что все зашло слишком далеко, что отвечать за реки крови придется. Если не на этом свете, то на том — точно.

Договариваться стараются на разных уровнях. Нужно учиться договариваться и в семье. Главное — не впихивать в собственные рамки человека, имеющего другое мнение. Ничего хорошего из этого не выйдет, лишь очередная волна непонимания и агрессии. Да, не все можно понять. Да, не все простить... Но или мы будем учиться все же понимать и прощать, или ненависть окончательно пожрет и нас, и оппонентов. А ведь эта война показала не только худшее, но и лучшее во многих из нас. Сколько бескорыстной помощи оказывают украинцы друг другу! Совершенно незнакомые люди делятся кровом и пищей с теми, кого война лишила дома и работы. Волонтеры, рискуя жизнью, под обстрелами, едут на территории, охваченные войной, чтобы привезти обездоленным донбассовцам продукты и медикаменты. Добро и любовь делают нас ЛЮДЬМИ, а ненависть и злость лишь уничтожают в нас все лучшее. Если мы будем созидать, а не разрушать, то преодолеем любые трудности. А еще очень важно помнить: Украине мало вернуть территории, нужно еще и вернуть души, доверие людей, оказавшихся сейчас между молотом и наковальней.



Ненавидеть, злиться, обижаться, обвинять — легче. Но это — путь в никуда. Так очень скоро можно очутиться в психиатрической клинике или в могиле. Куда сложнее задаться вопросом: что лично я могу сделать для того, чтобы быстрее восстановился мир. Недавно в Киеве прошел Третий международный форум социального партнерства и развития. Дискутировали четыре часа, представители Грузии, Молдовы, Армении делились своим опытом — как нам не допустить того, что произошло у них. Основной лейтмотив: важнейшая задача людей, общественников — находить мосты примирения.

## Переживать и страдать некогда

***— Как адаптироваться на новом месте вынужденным переселенцам? Не секрет, что далеко не везде их принимают с распростертыми объятьями...***

— О комфорте, конечно, говорить не приходится. Перебравшись из Донецка в Киев, я, к примеру, живу сейчас в однокомнатной квартире, где нас пятеро — две семьи. Это тяжело, неудобно. Но тем, кто живет под обстрелами, куда хуже... И это надо понимать.

Первые волны переселенцев с Донбасса пошли с мая (в 2014 г. — *Ред.*). Тогда казалось, что весь этот кошмар — ненадолго. Многие уезжали, чтобы просто переждать. А получилось, что нужно приживаться на новом месте, устраивать ребенка в садик или школу, искать работу. Некоторые переселенцы начали требовать к себе повышенного внимания. Мол, все им должны. Работать не желали, пестовали собственное горе, обвиняли в своих бедах тех, кто протянул им руку помощи. Были и те, кто действительно стал жертвой негативного отношения принимающей стороны. Дескать, наши мужчины воюют за ваш Донбасс, а вы тут «права качаете». У каждого человека — свои обстоятельства. И свое горе. И свой подход к разрешению массы проблем, с которыми мы сейчас столкнулись. Донбассовцы не привыкли ходить с протянутой рукой. Однако начать свой бизнес фактически с нуля, даже просто найти работу сейчас очень тяжело. И приходится соглашаться на куда меньшие зарплаты, худшие условия проживания... Кто-то не выдерживает и уезжает в охваченный войной Донбасс, предпочитая жить под снарядами, но в своих домах.

Главное — не поддаваться панике, не причитать: «Все пропало!» Нужно успокоиться, взять себя в руки, проанализировать всей семьей: какими ресурсами мы располагаем, чем можем заняться на новом месте, где нам будет лучше... Сейчас на многих сайтах можно узнать, как получить господдержку, помощь волонтеров, где пройти курсы переподготовки. Переживать и страдать некогда — нужно жить. Жить сегодня, чтобы строить свое завтра.



***— Дети в письмах Деду Морозу, в сочинениях пишут о войне, просят мира... Что делать, чтобы зарубцевались душевные раны подрастающего поколения, испытавшего ужасы обстрелов, потерь близких в результате военных действий?***

— Травмы, конечно, нанесены. И глубокие. Я общалась с семьей, которая перебралась в Киев из Луганщины. Их трехлетний мальчик хватал печенье, бежал и прятался в ванной комнате, боясь обстрела. Грохот, доносившийся с расположенной рядом стройки, повергал его в панику. Слава богу, у детей более подвижная и гибкая психика, чем у взрослых. И все же очень важно, чтобы родители перестали культивировать недовольство, страх, говорить о том, что пришлось пережить. Нужно делать акценты на положительном: мы вместе, мы живы, мы любим друг друга, мы все преодолеем. У деток-переселенцев куда меньше конфликтов со сверстниками, чем у их родителей. И наряду с ужасами, которые довелось (и доводится) переживать ребятишкам из Донбасса, они получают неоценимый опыт: сострадания, помощи, умения прощать.

Покинув родные места, одни родители, оставшись без работы, сблизились с детьми, проводя с ними куда больше времени, чем раньше. Другие, которым предложили работу далеко от места временного обитания, вынуждены были, напротив, расстаться с детворой. Появились семьи, принимающие ребят на временное воспитание, — пока их родители на работе. Независимо от ситуации, в которой вы оказались, главное — сохранить доверие, любовь и взаимопонимание. Беречь свой семейный очаг, пусть даже вы сейчас в стороне от того гнездышка, которое вили не один год...

## Складываем счастье

— Не секрет, что во многом под влиянием «зомбоящика» люди шли на референдум, приведший к кровавому хаосу на Донбассе... А сейчас по ТВ мы нередко слышим призывы бросить ДНР или ЛНР на произвол судьбы. Мол, пусть сами выкарабкиваются из того, во что вляпались... Пропаганда очень сильна. И всегда вредна, — уверена Яна Баранова. — Погружаясь в ТВ и интернет, люди паникуют, в душе и голове царит хаос. Комментируя те или иные новости, отстаивая свою (как мы считаем — самую верную) позицию, мы нередко способствуем раздуванию ненависти. Не засоряйте свою голову чужими идеологическими выкладками! Мы ведь теряем в этом всем себя, становимся орудием для манипулирования. Можно сутками рубиться в интернете, накручивая себя и окружающих. А можно отказаться от новостей хотя бы день. Поживите не ими, а тем, что вас окружает. Погуляйте на улице, побудьте с родными. Посмотрите любимую комедию, почитайте старую добрую книгу, поиграйте во что-то... Пообщайтесь с теми, кто разделяет вашу точку зрения. Помогайте тем, кому тяжелее, чем вам... Тот, кто переживал обстрелы, знает, что счастьем кажутся даже минуты тишины. А вы можете создать для себя часы, дни тишины и покоя, общения с близкими. Ведь счастье состоит из маленьких пазликов-состояний. И лишь от нас зависит, способны ли мы их сложить.

***Беседовал Андрей Кривцун***

# Стресс-профессия XXI века: как «выгорают» журналисты

**Все, что нас не убивает, — делает сильнее, это правда. Мир развивается циклично, кризисы проходят, и единственное, что мы можем, — принимать настоящее и себя такими, какие мы есть, и изменять его, насколько это возможно.**

***Дарья Яушева,***
*психолог, журналист, jourdom.ru*

Журналисты — одна из самых психологически незащищенных и сложных профессий. Мы не берем сейчас мифы вроде «да что им делать — только по фуршетам гулять» или «да они только интервью у звезд берут». Настоящая журналистика — это ежедневный маленький бой за каждый комментарий, за каждую новость, тему. Это гонка за эксклюзивами на выживание, «крещение огнем» через многочасовое раскачивание пресс-служб, поиски вменяемых экспертов.

## Стресс-факторы

Это правда, что, отучившись на журфаке, ты еще не стал журналистом. Пока ты не отработаешь в редакции хотя бы пару месяцев, ты салага, в голове у которого лишь иллюзорные представления о профессии. Однако, отработав год, ты матереешь. Кто-то учится раньше, кто-то позже, но реальность обтесывает всех.

В результате многие уходят из профессии: кто-то по другую сторону баррикад — в медиакоммуникации, кто-то преподавать на журфак, кто-то вообще осваивает новую специальность.

Те же, кто остается, живут в стрессовой обстановке постоянных дедлайнов. Особенно непросто приходится новостникам. Неважно, лояльно твое издание власти или нет, — тебе никто не подаст информацию на блюдечке. Это такой своеобразный «Макдональдс», где ты у рабочего стола пропускаешь через себя десятки информационных потоков. Трудно, часто бывают перегрузки. Это стресс-фактор номер раз. Мозг привыкает работать на износ и начинает голодать в моменты отсутствия информации. О да, это, пожалуй, та причина, по которой даже на отдыхе журналист остается журналистом.

Ты понимаешь, что обязан почти круглосуточно находиться в курсе последних новостей. Звонки, соцсети, официальные заявления, «сливы», инсайды, пресс-релизы — а внутри ты один, который должен быстро сориентироваться и сделать из моря необработанной информации читабельный материал. И ты знаешь, что у тебя огромное количество конкурентов и можно пропустить хорошую тему, если расслабиться.



Те, кто когда-нибудь по-дружески пил кофе с журналистами, знают об их привычке постоянно сидеть в телефоне и проверять одновременно почту, Instagram, Facebook, сообщения, WhatsApp, отвечать на звонки. Многозадачность — «уровень бог». Вот что такое обычный журналист. Даже когда пьешь, ты уже не пьянеешь. Измененное состояние сознания — это твоя норма. Ты живешь в пяти измерениях — прошлое, настоящее, будущее, вероятное прошлое, возможное будущее, и, скорее всего, я даже не все перечислила.

Информационный поток не прекращается ни на секунду, и ты можешь понадобиться в любой момент. Редактор знает, и ты знаешь, что, если потребуется поехать куда-то в десять часов вечера, — ты поедешь. Ты подписался. И если пресс-секретарь тупит и не может вытащить комментарий шефа до 12 часов ночи, то ты не спишь до часа, потому что пишешь, и до двух, потому что зла не хватает на этих пресс-секретарей; иногда до трех, потому что залипаешь в соцсетях. Не высыпаешься, ага. Это уже второй номер в списке наших факторов.

С пресс-секретарями при этом нужно «дружить». В определенный момент они могут стать неоценимым источником. А это уже немножко лицемерие. Думаете, это не влияет на журналиста? Еще как влияет! Чтобы защититься от осознания такого, становишься жутким циником или учишься дистанцироваться от профессии.

Считаем третьим стресс-фактором, да?

Личная жизнь летит к чертям, потому что ты в глазах другого человека — предатель и раб профессии. Да, это для себя (для коллег еще) ты профессионал и вообще работаешь ради чего-то большего, чем деньги. А вторая половина может не понять. Особенно если она, половина, работает в офисе строго с 9-00 до 18-00 и никогда не слышала о существовании ненормированного рабочего дня.

Неустроенная семейная жизнь — это уже, вроде, четвертый пункт в списке.

А язвительные коллеги со сложными характерами от недосыпаний и депрессий, у которых тоже все горит, а руководство, редакторы, иногда низкая зарплата, но всегда высокая цена ошибки и т. д. «ДМС? — Нет, не слышал».

Эти стресс-факторы существовали всегда. В последние годы к ним добавилось еще несколько.

## «Тварь дрожащая или право имею?»

Соцсети стали делать из журналистов микробогов. Вы слышали такое выражение, что каждый журналист в душе мечтает написать книжку? Если Маслоу утверждал о необходимости самоактуализации для формирования здоровой личности, то Франкл говорил, что еще надо понять, ради чего она нужна, эта самоактуализация. «В чем смысл?» — такой вопрос он задавал своим пациентам. Маслоу подумал и решил отказаться от этой пирамиды. Ради чего журналист работает, ради чего он заводит блоги и высказывает мнение, на мой взгляд, мало кто думал. Потому что мало что живет меньше, чем твит. Неумолимая лента уносит его далеко-далеко. И новый день — и новые мнения.

У отдельных журналистов сегодня десятки тысяч подписчиков. Они сами себе средства массовой информации и ньюсмейкеры. Иногда это рождает зависимость — от ретвитов, репостов, лайков и шеров. Очень опасная зависимость, потому что каждый день приходится вновь и вновь следить за тем, кто лайкнул и как именно прокомментировал. Правда, это можно монетизировать, но это уже рождает вопрос об этике, и не все на монетизацию идут. Случай с Александром Плющевым показал, что обратная сторона такой личной свободы мнений — высокая степень ответственности. Старший брат не спит, как писал Оруэлл.

Другая проблема в соцсетях — дифференциация по политическим позициям. Как только ты высказываешь определенную точку зрения, любые отклонения от нее встречают поток критики. Чем ты популярнее — тем больше критики. Инстинкт самозащиты заставляет тебя думать именно так, а не иначе, и при этом обманывать себя, утверждая, что ты действительно так думаешь. Потому что вот это «иначе» превратит твой паблик в такие авгиевы конюшни — долго не расчистишь. Чем острее тема, тем полярнее позиции непримиримых лагерей. Сел на один стул — изволь не вставать. Сказал, что Путин — вор, не ищи в работе правительства ничего хорошего. Работаешь в проправительственном агентстве — будь готов к вопросам вроде: «Да как ты вообще не давишься едой, купленной на деньги властей?!» — и минимизации критических постов. Старший брат, ага?

На самом деле, не все на это ведутся. Многие проходят через такие моменты, и начинают смотреть на подобные комментарии свысока, и пишут все, что хотят, другие — прячут свою уязвимость под маской циника, третьи уходят во «френдз онли», четвертые — в хорошо или плохо скрываемую депрессию и в запой. На самом деле, если лента новостей оказывается чуть более, чем полностью состоящей из негативных мнений, психологом быть не нужно, чтобы понять, как это скажется на мироощущении. Именно на такой благодатной почве и разрастается депрессия, друзья.

Если не добьет поток мнений и «медиасрачей» в соцсетях, здравствуйте, новые правила медиаэкономики, где могут увольнять коллективами вслед за неудобным редактором, внезапно реформировать целое информагентство, убирать из эфира за твиты и клеймить «наймитами», «пропагандистами» или «грантоедами». И все с полярных, радикальных позиций. И хочется отдохнуть, но не получается, потому что круг общения состоит из таких же накрученных людей, которые тоже мечтают отдохнуть, но не могут не высказаться на тему «правильно ли говорить про “валить из Рашки”», а это рождает прямо-таки эпические треды.

Кризис приносит новую проблему — выживаемость изданий и сокращение рекламных доходов, что влечет за собой сокращения или закрытие СМИ.

Потрясающую повесть о сложных репортерских буднях написал отец «гонзо-журналистики» Хантер Томпсон — «Ромовый дневник». Но, думаю, ему и не снилось то, во что может превратиться англосаксонская модель журналистики в XXI веке с развитием новых медиа. Уверена, что он не думал о том, что журналисты могут стать глубоко несчастными людьми, что депрессия среди них может стать абсолютно нормальным явлением, что самоубийство станет единственным выходом для продюсера крупнейшего российского информагентства…

Я восхищаюсь современными журналистами, правда. Это время потрясающих профессионалов, многих из которых я имею счастье близко знать. Но это тот период, когда журналисту нужно очень постараться, чтобы «не сгореть». Если это случилось, если появляются симптомы депрессии и «выгорания», то самый, пожалуй, лучший вариант — это психотерапия для обретения устойчивости и снятия напряжения вкупе с антидепрессантами. Причем, пожалуй, лучшая терапия для журналистов — экзистенциальная.

Самый худший выход — алкогольная сублимация и разного рода зависимости. Хорошая новость — он не единственный, и справиться со стрессами действительно можно!

Хобби, расширение круга интересов, волонтерская работа, семья, путешествия — и это только первые возможные варианты того, как можно расширить «тоннельное мировосприятие» и сместить мировоззренческий фокус.

Все, что нас не убивает, — делает сильнее, это правда. Мир развивается циклично, кризисы проходят, и единственное, что мы можем, — принимать настоящее и себя такими, какие мы есть, и изменять его, насколько это возможно.

# Кто должен заботиться о безопасности журналистов?

**Новостная журналистика является одной из наиболее опасных профессий.**

Российская Госдума в середине февраля приняла в первом чтении поправки к закону «О средствах массовой информации», направленные на обеспечение гарантий безопасности журналистов, работающих в горячих точках, местах стихийных бедствий и в прочих обстоятельствах повышенной опасности.

Официально указано, что закон устанавливает дополнительные гарантии для журналистов. Однако юридически он лишь расширяет права репортеров, которые теперь имеют возможность требовать от своего работодателя заключения трудового договора, «гарантирующего… необходимые и достаточные условия осуществления профессиональной деятельности, включая безопасные условия и охрану труда».

При этом в закон добавлена еще одна статья, в которой указано, что работодатель «обязан уважать права журналиста», — впрочем, никакой ответственности за несоблюдение этого пункта не предусмотрено.

Как отмечают эксперты, в том числе из правового управления Госдумы, понятие «уважать права» вообще не является юридическим термином и не может быть закреплено законодательно.

При этом в большинстве европейских стран безопасность журналистов, работающих в опасных ситуациях, регулируется преимущественно не специальными законами, а внутренними правилами редакции, коллективными договорами профсоюзов и судебными прецедентами.

### Duty of care

Согласно статистике, новостная журналистика является одной из наиболее опасных профессий. По данным международного Комитета по защите журналистов, за последние 10 лет более 500 репортеров, операторов и других сотрудников СМИ погибли в результате своей профессиональной деятельности (в том числе 15 — в России).

Из них более трети (38 %) были убиты в ходе освещения войн и других вооруженных конфликтов.

В предыдущей редакции российского закона о СМИ уже было оговорено, что защиту здоровья, жизни и имущества журналисту гарантирует государство — «как лицу, выполняющему общественный долг».

В новой версии уточняется, что работодатель должен обеспечить сотрудников, работающих в горячих точках, средствами индивидуальной защиты, другим специальным снаряжением и опознавательным знаком «Пресса», а также возможностью пройти специальные тренинги по безопасности и дополнительной страховкой.

Между тем международный опыт показывает, что в странах Запада, как было сказано выше, безопасность журналистов не требует специального регулирования. Ее обеспечивают общее законодательство об охране труда и внутренние правила изданий, в которых работают репортеры.

В Англии, например, есть юридическое понятие «duty of care» (дословно — «обязательство о заботе»), в частности, обязывающее работодателя обеспечить сохранность здоровья и жизни сотрудников.

Перед отправкой на любое задание, потенциально представляющее опасность для жизни и здоровья, сотрудники большинства компаний (не только СМИ) заполняют специальную форму оценки риска (risk assessment), исходя из которой им обеспечиваются необходимое для работы оборудование, средства защиты, консультации и подготовка.

### Без бронежилета

В последние пару десятилетий заботе о безопасности журналистов в западных странах уделяется все больше внимания, несмотря на отсутствие прямых требований и законодательных установок.

«В 1989 году я шел сквозь зону ожесточенного боя в Сальвадоре, размахивая белым флагом, без всякого бронежилета или специалистов по безопасности, которые сейчас обязательно должны быть при освещении военных действий», — вспоминал один из самых маститых репортеров Би-би-си Джереми Боуэн.

«Но теперь мы сами превратились в цель. В некоторых странах западные СМИ воспринимаются как враг, на журналистов совершают нападения, их берут в заложники. Война — это всегда опасно и непредсказуемо, однако риск для тех, кто занимается освещением конфликтов, сейчас значительно возрос», — считает он.

Комитет по защите журналистов подтверждает это мнение цифрами: за семь лет вооруженного конфликта в Ираке (2003–2010) там был убит 71 журналист — ровно столько же, сколько за все 20 лет Вьетнамской войны. Конфликт в Сирии, продолжающийся менее четырех лет, уже унес жизни 70 репортеров.

Для сотрудников СМИ, работающих в зоне стихийного бедствия, вооруженных конфликтов и в других горячих точках, регулярно проводятся тренинги по обеспечению безопасности. Например, журналисты Би-би-си и «Евроньюс» в обязательном порядке проходят тренинг HEFAT, где их не только учат оказывать первую помощь, но и рассказывают, как вести себя в случае нападения, похищения, попадания под обстрел или захвата в заложники.

*BBC,*
*bbc.co.uk*

# Небяспечная, рызыкоўная і… любімая

Так можна ахарактарызаваць прафесію журналіста ў сучаснай Беларусі. Толькі з адным істотным удакладненнем: словы «небяспечная» і «рызыкоўная» тычацца выключна журналістаўфрылансераў ды супрацоўнікаў незалежных СМІ. Усе іншыя, хто звязаў свой лёс з гэтай публічнай прафесіяй, могуць пачувацца спакойна. Бо ім не прыходзяць позвы з пракуратуры, іх не выклікаюць для «прафілактычных» гутарак у КДБ, не судзяць, не штрафуюць… Дый дзякуй Богу!

На старонках карпаратыўнага журналісцкага часопіса мы час ад часу расказваем пра нашых калег, аднадумцаў і паплечнікаў, пра іх перакананні ды стаўленне да прафесіі.

Сёння мы дадзім слова лепшым з лепшых, што можна сказаць не пра адну сотню бажаўцаў. Сваімі публікацыямі і ўчынкамі яны робяць тое, што мусяць і хочуць рабіць: абараняюць канстытуцыйнае права грамадзян на атрыманне аб'ектыўнай інфармацыі, каб кожны ведаў, што насамрэч адбываецца ў краіне, якімі спадзяваннямі і клопатамі жывуць беларусы; імкнуцца захаваць прызнаныя ва ўсіх цывілізаваных краінах стандарты якаснай журналістыкі; пастаянна нагадваюць, што чыноўнікі павінны служыць народу, а не наадварот… Толькі ўсвядоміўшы гэтыя простыя ісціны, чалавек можа стаць паўнавартасным грамадзянінам сваёй краіны.

Мы адмыслова задалі нашым калегам аднолькавыя пытанні, якія стаяць не толькі перад беларускай журналістыкай, але і перад усімі суайчыннікамі, якія падзяляюць дэмакратычныя каштоўнасці ды займаюць актыўную грамадзянскую пазіцыю.



**Андрэй Пачобут**

**Журналіст, публіцыст і блогер са шматгадовым прафесійным досведам.**

**Актывіст Саюза палякаў Беларусі (СПБ). Працаваў у газетах «Пагоня», «Дзень», «Мясцовы час», польскамоўнай «Glos z-nad Niemna», карэспандэнтам рэспубліканскай незалежнай газеты «Народная воля». Быў галоўным рэдактарам часопіса СПБ «Magazyn Polski na uchodźstwie».**

**За бескампрамісную грамадскую і журналісцкую дзейнасць Андрэя неаднаразова затрымлівалі, каралі штрафамі, адміністрацыйным арыштам, узбуджалі супраць яго крымінальныя справы... Некалькі месяцаў ён правёў у гродзенскім следчым ізалятары.**

**Лаўрэат беларускіх і міжнародных журналісцкіх прэмій.**



**Сяргей Няроўны**

**Узначальвае крычаўскую газету «Вольны горад» з першага дня яе заснавання. 20 красавіка «ВГ» споўнілася 17 гадоў.**

**Сяргей — кіраўнік крычаўскай суполкі БАЖ. Нягледзячы на тое, што незалежнаму выданню неаднаразова адмаўлялі ў рэгістрацыі і таму наклад яго невялікі, «Вольны горад» набыў заслужаную папулярнасць не толькі ў Крычаве, але і ў Клімавічах, Касцюковічах ды іншых гарадах Магілёўшчыны. Грамадскі ўплыў газеты настолькі вялікі, што мясцовыя ўлады вымушаны рэагаваць на крытыку ў свой адрас на старонках «ВГ». Крытычныя публікацыі не аднойчы станавіліся прадметам судовых разбіральніцтваў з крычаўскімі чыноўнікамі.**



**Ларыса Шчыракова**

**Вядомы гомельскі журналістфрылансер.**

**Нядаўна ў чарговы раз яе аштрафавалі на 3,6 мільёна рублёў. Падставай для завядзення адміністрацыйнай справы стаў сюжэт на тэлеканале «Белсат» з апытаннем гомельскіх прадпрымальнікаў. На думку міліцыі, Ларыса Шчыракова падрыхтавала матэрыял для замежнага СМІ без акрэдытацыі ў МЗС Беларусі.**

**Ва ўпраўленні ўнутраных спраў г. Рэчыца, што на Гомельшчыне, 10 сакавіка гэтага года на журналістку склалі яшчэ два пратаколы.**

**Ларысу неаднаразова затрымлівалі, папярэджвалі, штрафавалі. Аднак яна па-ранейшаму займаецца журналістыкай, шукае і перадае аб'ектыўную інфармацыю.**



**Таццяна Смоткіна**

**Працавала ў газеце «Вольнае Глыбокае». Супрацоўнічала з сайтам Westki.info, адна са стваральнікаў сайта Glybokae.by, дапамагала ў станаўленні газеты «Каталіцкі веснік». Апошнія гады супрацоўнічае з беларускім Радыё «Рацыя». Аўтар шматлікіх рэзанансных матэрыялаў пра сацыяльна-эканамічныя ды палітычныя праблемы Віцебшчыны і Глыбоччыны.**

**З 2002 года — кіраўнік пакуль яшчэ незарэгістраванай рэгіянальнай суполкі БАЖ. Не аднойчы ўзнагароджвалася дыпломамі Беларускай асацыяцыі журналістаў за актыўнасць і плённую працу.**

## Апытанка «А»

*1. Працаваць на ніве незалежнай журналістыкі ў нашай краіне, мякка кажучы, даволі складана. Ці не стаміліся?*

**Андрэй Пачобут:**

— Самае складанае, што ў Беларусі, здаецца, затрымаўся час. Прэзідэнт Лукашэнка кіруе ўжо дваццаць гадоў. Быццам бы ўжо ўсё было: рэпрэсіі ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці, «лібералізацыя», пацалункі ў Крамлі і падміргванне Захаду. І ўсё паўтараецца.

Гэта найбольш і стамляе. Я асабіста спрабую неяк вырвацца з гэтага замкнёнага кола: пісаць на розныя тэмы, у тым ліку гістарычныя, бываць у іншых краінах і пісаць пра іх.

**Ларыса Шчыракова:**

— Стомленасць ёсць, як і жаданне крыху змяніць профіль сваёй працы. Так, я зараз здымаю на тэлекамеру, але хачу стаць фотакарэспандэнтам.

**Сяргей Няроўны:**

— Бывае. Гэта, магчыма, узроставае — не маладзеем жа… Але драйву, энергетыкі яшчэ хапае. Тым больш што адчуваецца моцная падтрымка чытачоў. Ідзеш па вуліцы, ловіш добразычлівыя погляды, усмешкі, вітаешся, чуеш добрыя словы ў адрас газеты і рэдакцыі — вось вам і дадатковая энергія, каб не спыняцца і працягваць працу. І вельмі хочацца дайсці да сваёй мэты — убачыць Беларусь дэмакратычнай, незалежнай, еўрапейскай дзяржавай, якую шануюць ва ўсім свеце. Зразумела, са свабоднымі СМІ.

**Таццяна Смоткіна:**

— У журналістыцы я з 2001 года, але пакуль не стамілася, бо займалася рознай працай: была карэктарам і карэспандэнтам газеты «Вольнае Глыбокае», потым менеджарам, кіраўніком рэкламнага аддзела, дырэктарам прыватнага прадпрыемства, якое выдавала рэкламную газету «Прэфект-інфо». Зараз супрацоўнічаю з беларускім Радыё «Рацыя». Набыла досвед работы ў розных кірунках, але зразумела, што больш за ўсё падабаецца радыёжурналістыка. Гэта сапраўды маё. Люблю і паважаю сваіх калег з «Рацыі» за клопат, разуменне, падтрымку, прафесіяналізм і за магчымасць самарэалізацыі.

*2. Што, на ваш погляд, найбольш замінае ў працы?*

**Андрэй Пачобут:**

— Змаганне з «паветранымі млынамі», перашкоды на шляху атрымання нават самай звычайнай, бяскрыўднай інфармацыі. Гэта сапраўдная параноя беларускіх чыноўнікаў.

**Ларыса Шчыракова:**

— Пачуццё неабароненасці з боку закону і беларускага правасуддзя. Не ўсе людзі аддаюць нам належнае і разумеюць, што мы заўсёды за «простага чалавека», што наша праца вельмі патрэбная і карысная для грамадства. Некаторыя стаяць на баку чыноўнікаў. Засмучае слабы кантроль за дзеяннямі апошніх і такі ж кволы ўплыў на іх з боку грамадства.

**Сяргей Няроўны:**

— Ёсць рэчы, пра якія б я не хацеў зараз гаварыць.

**Таццяна Смоткіна:**

— Найбольш засмучае стаўленне некаторых чыноўнікаў да журналістаў недзяржаўных СМІ. Яны лічаць, што з мерапрыемства, на якім ты працуеш, альбо пасля размовы з імі ты распаўсюдзіш у медыяпрасторы выключна негатыў. Не ведаю, праз што альбо каго ў гэтых чыноўнікаў складваецца такое ўражанне. І вельмі часта даводзіцца пераконваць такіх «недаверлівых» і тлумачыць, што для нас важная, у першую чаргу, аб'ектыўная інфармацыя, а не негатыў.

*3. Не ўзнікала думкі пакінуць незалежную журналістыку і заняцца больш спакойнай ды прыбытковай справай?*

**Андрэй Пачобут:**

— Часам такія думкі з'яўляліся, але журналістыка — гэта надта цікава, таму заўсёды лёгка знайсці аргументы на карысць таго, каб працягваць ёю займацца.

**Ларыса Шчыракова:**

— Было такое. Сто разоў карцела развітацца са статусам «вольнага стралка» і пайсці працаваць нават у дзяржаўнае выданне, каб не адчуваць сябе зацкаваным чалавекам. Такое пачуццё з'яўляецца з прычыны пільнага «клопату» сілавых ведамстваў ды ідэолагаў.

**Сяргей Няроўны:**

— Як можна адмовіцца ад свайго дзіцяці, нават калі з ім вельмі клопатна, адысці ад справы, на якую пакладзена амаль дваццаць пяць, напэўна, лепшых гадоў жыцця?! Такая мадэль паводзінаў не для мяне. Гэта была б самая сапраўдная здрада, у першую чаргу, самому сабе, а таксама сябрам, якія сталі маімі паплечнікамі. Гэта была б здрада маёй сям'і, маці, якія мяне падтрымлівалі і падтрымліваюць. Падтрымлівалі нават тады, калі шмат хто думаў, што «Вольны горад» — нейкая несур'ёзная, часовая гульня. Жыццё паказала, што гэта не так.

**Таццяна Смоткіна:**

— Ніколі, бо гэта цікавая і творчая прафесія, якая дазваляе напоўніцу выкарыстоўваць свой патэнцыял. А галоўнае — незалежная журналістыка дае свабоду, без якой з маім складам характару жыць проста немагчыма. Я вельмі цаню яе. Зразумела, абсалютнай свабоды ў жыцці не існуе, але ўсё пазнаецца ў параўнанні.

Калісьці я працавала настаўніцай. Мае сябры і знаёмыя і сёння працуюць у розных дзяржаўных установах, у афіцыйных СМІ і шмат пра што расказваюць пры сустрэчах. Пасля гэтага я ў чарговы раз раблю выснову, што абраная мною прафесія — мая справа — дазваляе мне гаварыць праўду і не крывадушнічаць. Хаця дзеля аб'ектыўнасці скажу, што нямала калег і з дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі стараюцца прытрымлівацца прафесійных і этычных стандартаў.

Не ганюся за вялікімі грашыма, для мяне галоўнае — чыстае сумленне. Я верніца, таму лічу, што кожны рана ці позна будзе трымаць адказ перад Богам за ўсе свае словы і ўчынкі.

*4. Адкуль чэрпаеце смеласць і натхненне для прафесійнай дзейнасці?*

**Андрэй Пачобут:**

— Я вельмі ўдзячны ўвазе чытачоў, іх цікавасці да таго, што раблю.

**Ларыса Шчыракова:**

— Спрыяе магчымасць займацца тым, што сапраўды падабаецца: пісаць праўду, паказваць рэчаіснасць аб'ектыўна, прыносіць рэальную карысць людзям, дапамагаць вырашаць праблемы як асобным суайчыннікам, так і грамадству ў цэлым. Гэта бясконцы працэс пазнавання свету…

**Сяргей Няроўны:**

— Ёсць камандны дух, адказнасць за справу, упэўненасць у тым, што маеш рацыю. А яшчэ — Божая ласка і надзейны сямейны тыл.

**Таццяна Смоткіна:**

— Усё гэта мне дае сям'я. Я вельмі ўдзячная свайму мужу за разуменне і падтрымку. Мы давяраем адно аднаму, таму ніколі не ўзнікаюць пытанні наконт маіх частых працоўных камандзіровак. У нас аднолькавыя палітычныя погляды, таму і ў гэтым сэнсе ўсё прасцей. Калі ёсць моцны сямейны тыл, то і працаваць лягчэй: з'яўляюцца і сілы, і смеласць, і натхненне.

*5. Ці падтрымліваюць вашу пазіцыю ў адстойванні справядлівасці сябры, родныя, знаёмыя? Альбо ёсць такія, хто круціць пальцам ля скроні?*

**Андрэй Пачобут:**

— Сваякі і сябры даўно ўжо прызвычаіліся да маёй грамадзянскай і медыйнай пазіцыі. Знаёмыя часам не разумеюць. Пераважная большасць грамадства не гатовая «плаціць» за свае перакананні і згодная прыстасоўвацца да навакольнай рэчаіснасці. Людзям часам цяжка зразумець, што гэта не зусім добра.

**Ларыса Шчыракова:**

— Матуля незадаволеная, што я незалежная журналістка. Бо ў яе свядомасці гэта аўтаматычна звязанае з рознымі формамі рэпрэсій. Знаёмыя ж ставяцца з павагай да маёй прафесійнай дзейнасці.

**Сяргей Няроўны:**

— Без іх падтрымкі не было б «Вольнага горада» — гэта аксіёма. А тых, хто круціць пальцам ля скроні, ніколі не бачыў. «ВГ» — з'ява вельмі сур'ёзная...

**Таццяна Смоткіна:**

— Пра родных я ўжо казала вышэй: яны заўжды падтрымлівалі і падтрымліваюць мяне. А вось сябры і знаёмыя — не заўсёды. Некаторыя кажуць, што я, наадварот, ускладняю жыццё сабе і сваім родным. Па іх словах, не трэба адкрыта выступаць з уласнымі поглядамі, бо гэта прыносіць людзям толькі шкоду. Маўляў, беларускі народ не дурны — ён і так усё ведае, але пры нашай сістэме лепш маўчаць, лепш з усім пагаджацца.

На гэта я адказваю: «Кожны сам выбірае, як яму жыць».

*6. Ці здараецца такое, што ў нефармальных размовах «вертыкальшчыкі», супрацоўнікі дзяржаўных СМІ выказваюць вам сваю сімпатыю і павагу?*

**Андрэй Пачобут:**

— Выказваюць і выказвалі неаднаразова. Такое здаралася, нават калі я быў у турме. Людзі з дзяржаўных структур лепш, чым нават так званы звычайны грамадзянін, ведаюць, як функцыянуе наша сістэма і якую цану трэба плаціць за журналісцкую незалежнасць.

**Ларыса Шчыракова:**

— Стасункі з калегамі з дзяржаўных выданняў сяброўскія. Варожасці з іх боку няма. Яны часта дапамагаюць і ў працы. Міліцыянты, здараецца, кажуць, як ім усё абрыдла, але ў мяне няма даверу да іх, бо яны ўжо рабілі і зробяць менавіта тое, што ім загадаюць зверху.

**Сяргей Няроўны:**

— Гэта было і раней, а зараз — тым больш. І прабачэння прасілі, і шчыра дзякавалі за вастрыню і смеласць публікацый, поглядаў і меркаванняў. Павінен сказаць, што ва ўладзе шмат прыстойных і адукаваных людзей, дзякуючы якім газета «Вольны горад» стала ўплывовай не толькі ў крычаўскім асяродку.

Што тычыцца канкурэнтаў з дзяржаўных газет, то паводзяць яны сябе па-рознаму, аднак прызнаюць нас за сур'ёзную сілу, якая мае значны ўплыў на фармаванне грамадскай думкі.

**Таццяна Смоткіна:**

— Я не ахвотніца заводзіць нефармальныя гутаркі з «вертыкальшчыкамі». Перасякаюся з імі выключна падчас журналісцкай працы. З расказаў жа маіх калег пра размовы з прадстаўнікамі ўлады я раблю выснову, што такія гутаркі не зусім шчырыя. А вось з прадстаўнікамі дзяржаўных СМІ час ад часу размаўляю. Заўважыла, што многія з іх нам, незалежным журналістам, па-добраму зайздросцяць, таму што мы можам адкрыта выказваць свае думкі і пачуцці, павышаць прафесійны ўзровень дзякуючы разнастайным адукацыйным праграмам, якія ладзіць грамадскае аб'яднанне «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Зайздросцяць і таму, што паміж намі існуе моцная журналісцкая салідарнасць.

*7. Ці верыце ў светлае заўтра беларускіх медыя?*

**Андрэй Пачобут:**

— Канешне. Не маю сумневаў, што рана ці позна сітуацыя са СМІ ў Беларусі вернецца ў цывілізаванае рэчышча.

**Ларыса Шчыракова:**

— Безумоўна. Яно непазбежнае пры ўсталяванні больш дэмакратычнай улады.

**Сяргей Няроўны:**

— Так, і яно абавязкова будзе. Магчыма, нават раней, чым мы сабе ўяўляем.

**Таццяна Смоткіна:**

— Пытанне даволі складанае. З аднаго боку, верыць у лепшае, светлае, у праўду трэба заўсёды, а з іншага — рэальнасць падказвае, што за светлую будучыню незалежным масмедыя трэба яшчэ пазмагацца. Прычым — сур'ёзна.

***8. Адчуваецца адказнасць перад Богам, грамадствам, сабою? Калі так, то ў чым яна палягае?***

**Андрэй Пачобут:**

— Імкнуся найлепшым чынам адлюстроўваць рэчаіснасць. Гэта, як мне падаецца, галоўнае ў нашай працы.

**Ларыса Шчыракова:**

— Ёсць адказнасць перад Богам, каб не крывіць душой і быць максімальна шчырым, аб'ектыўным. Для грамадства ж хочацца быць проста карыснай.

**Сяргей Няроўны:**

— Выконваць сваю справу як мага больш прафесійна, каб людзі маглі рабіць у жыцці асэнсаваны выбар. Вядома, весці за сабою, бо разумею, як лёгка чалавеку патрапіць пад уплыў медыйнай прапаганды. Апошні год гэта паказаў найбольш яскрава.

**Таццяна Смоткіна:**

— Вядома, адчуваю. Лічу, што адказнасць павінна быць у любой працы, бо без гэтага ты не зможаш якасна выконваць свае абавязкі. А ў журналістаў высокая адказнасць, бо, бывае, адно слова ці адна нязначная, на першы погляд, памылка могуць вельмі істотна паўплываць на лёс чалавека і яго рэпутацыю. Галоўнае правіла, якога я прытрымліваюся ў прафесіі, — не нашкодзіць. І, калі чалавек просіць не агучваць нейкія факты, спасылаючыся на тое, што ў яго будуць праблемы, я іх не агучваю.

***9. Як, на ваш погляд, будуць сябе паводзіць улады ў дачыненні да незалежных СМІ падчас прэзідэнцкай кампаніі-2015?***

**Андрэй Пачобут:**

— З аднаго боку, выбарчая кампанія заўсёды была прычынай узмацнення ціску на журналістаў. З другога — сітуацыя вакол Беларусі вельмі і вельмі няпростая. У суседняй Украіне вайна, у нашай краіны і яе кіраўніка заангажаваны галоўны саюзнік — Расія, і ўсё гэта будзе ўплываць на настрой беларускіх уладаў. Між тым, Лукашэнку патрэбныя заходнія крэдыты, таму ён будзе зацікаўлены ў тым, каб выбары прайшлі без супербрутальнасці. Вось такія, на маю думку, вызначаюцца тэндэнцыі. Пакуль цяжка сказаць, якая з іх пераможа…

**Ларыса Шчыракова:**

— Незалежным журналістам трэба зноў чакаць запалохвання, прэсінгу і рэпрэсій.

**Сяргей Няроўны:**

— Многае будзе залежаць ад стану эканомікі і магчымых сацыяльных узрушэнняў, але спакойнага жыцця чакаць не выпадае. Будуць і штрафы, і затрыманні… Вось «Народную волю» падчапілі на «кручок» папярэджаннямі, прайшла чарговая «трэніроўка» па блакаванні незалежных сайтаў… Гэта так званыя прэвентыўныя дзеянні ўладаў: маўляў, не пераступайце чырвоную рысу.

У нашым горадзе «ахоўнай граматай» ад брутальных дзеянняў мясцовых уладаў супраць нас з'яўляецца грамадская думка. Людзі падзяляюць нашу пазіцыю, яны на нашым баку.

**Таццяна Смоткіна:**

— На маю думку, падчас прэзідэнцкай кампаніі 2015 года ўлады не будуць чыніць асаблівых перашкод незалежным журналістам, хіба толькі тым, хто працуе без акрэдытацыі. У руках улады шмат «козыраў». Даскanала зладжаны механізм правядзення выбараў, і наўрад ці сёлета штосьці зменіцца да лепшага, да іх празрыстасці. Тым больш што сёння шмат хто разумее: беларускае грамадства пакуль не гатовае да сур'ёзных дэмакратычных перамен.

***10. Наколькі верагодна наладзіць плённы грамадскі дыялог з уладай і яе апанентамі, пра які параўнальна нядаўна гаварылі галоўны рэдактар «Народнай волі» Іосіф Сярэдзіч і Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з журналістамі?***

**Андрэй Пачобут:**

— Скажу шчыра: верагоднасць невысокая. Лукашэнка дваццаць гадоў будаваў пэўную сістэму — і разбураць яе, дапускаючы рэальны плюралізм, ён не збіраецца. Лукашэнка працуе ў рэжыме маналога. Ён да гэтага прызвычаіўся, і я не думаю, што сёння яму патрэбен нейкі дыялог у грамадстве.

**Ларыса Шчыракова:**

— На мой суб'ектыўны погляд, такая верагоднасць набліжаецца да нуля.

**Сяргей Няроўны:**

— Гэта, хутчэй, як заўсёды, імітацыя дыялога. А ў нашым рэгіянальным наваколлі нават і яе не будзе, бо для імітацыі таксама трэба мець смеласць і мазгі.

**Таццяна Смоткіна:**

— У магчымасць дыялога з грамадствам, пра які гаварылі Іосіф Сярэдзіч і Аляксандр Лукашэнка, я пакуль не веру. На маю думку, у дадзены момант улады ў гэтым не зацікаўленыя. Што тычыцца дыялога ў сферы СМІ, то адказ трэба шукаць у словах Лукашэнкі, адрасаваных Сярэдзічу: «Ну вось ты накаркай мне яшчэ дзясятак "Народных воль"! Дай мне справіцца з адной»…

*Падрыхтаваў*
*Аляксандр Коктыш*

# Возникновение жанра журналистского расследования



*Анатолий ГУЛЯЕВ*

**Общеизвестно: в журналистике существует ряд жанров. Задумываться об их происхождении как-то не принято — да и незачем. Это — как дерево при дороге: стоит оно себе — да и ладно. Жанры есть? Ну и слава Богу!**

## Эволюция

Для полноты картины приведем одну из многочисленных формулировок, предложенную Александром Васильевичем Колесниченко, редактором отдела «Общество» газеты «Новые Известия», доцентом МГУ: «*Жанры журналистики — это устойчивые формы журналистских произведений*». Колесниченко отмечает: «*Общепринятой классификации журналистских жанров не существует. На Западе жанры обычно делят на "событийные" и "комментарийные". В российских учебных пособиях встречается деление на информационные, аналитические и художественные жанры*».

Нельзя не сказать и о том, что жанр — категория исторически конкретная, развивающаяся во времени.

Но почему все же возник жанр журналистского расследования, который предполагает не просто сопоставление двух точек зрения на проблему, не просто анализ, а глубокое изучение журналистами той или иной ситуации с использованием максимального количества источников информации? Причем расследование это ведется от имени общества, а не официальных структур... Почему появился такой жанр? Ведь всегда в том или ином виде существовали полиция, прокуратура, суды, иные органы расследования, контроля и подавления. В их распоряжении всегда были специально обученные профессионалы-расследователи, получающие за работу немалые деньги. Эти профессионалы наделены полномочиями, хорошо вооружены, оснащены специальной техникой... Не наивно ли надеяться, что один или несколько журналистов, чаще всего даже не имеющих юридического образования, смогут если не заменить, то хотя бы соперничать с этим громадным, всегда очень мощным и квалифицированным государственным аппаратом?

Но в этом неравном противостоянии всегда была необходимость, это было востребовано социумом с давних времен. И признано, и сформулировано в общественном сознании тоже очень давно: «*При отсутствии справедливости, что такое государство, как не простая разбойничья шайка?.. И они (разбойники) представляют собой общество людей, управляются начальствами, связаны обоюдным соглашением, делят добычу по установленному закону. Когда подобная шайка потерянных людей достигает таких размеров, что захватывает города и страны и подчиняет своей власти народ, тогда открыто получает название государства*» (Святой Августин Блаженный, «О граде Божьем», книга 4, глава 4).

Примеров неправедных действий власти можно приводить множество — от начала веков до сегодняшнего дня. Вспомним хотя бы противостояние, история которого изложена в Библии и очень интересно описана в романе Михаила Булгакова «Мастер и Маргарита».

В дни светлого праздника Пасхи в Иудее полагалось помиловать одного из содержащихся в тюрьме преступников. И в Библии, и в романе Михаила Булгакова суть конфликта одна: во имя «высших интересов», как их понимали большие начальники — Каифа и Понтий Пилат, — вор и убийца Варавва избежал казни, а распятым на кресте оказался смиренный проповедник (по Библии — Иисус, в варианте Булгакова — Иешуа Га-Ноцри).



## Всюду — как всегда

Правосудие во все века было несовершенным, поскольку чиновники с чиновниками (и теми, кто мог заплатить) всегда умели договариваться. Это даже сложно назвать исключением из правил. Это, скорее, правило.

Перенесемся в другой исторический период: начало советской власти в Беларуси. «*В сентябре 1922 года в УК БССР было внесено дополнение о неприменении смертной казни к лицам, не достигшим в момент совершения преступления 18-летнего возраста. В январе 1923 года очередным дополнением в УК БССР наполовину снижалось наказание лицам в возрасте от 14 до 16 лет, на одну треть — в возрасте от 16 до 18 лет, запрещалось применение смертной казни к беременным женщинам*» (Вишневский А. Ф., Довнар Т. И. История государства и права Беларуси. Минск, 1996. С. 39–40).

То есть до 1922 года казнили детей и беременных женщин. Это правосудие?

В январе 1930 года в БССР были введены статьи, предусматривающие уголовную ответственность за злостное невыполнение постановлений и правил, обеспечивающих успешную коллективизацию сельского хозяйства (лишение свободы на срок до 3 лет с выселением или без выселения), за агитацию и пропаганду, препятствующую проведению коллективизации…

То есть, если ты возражал против коллективизации — проще говоря, против того, что у тебя насильно отнимали твою землю, — тебя сажали на 3 года. Это правосудие?

В годы войны на оккупированной территории Беларуси царило «партизанское правосудие». Подпольными партийными комитетами создавались «тройки», созывались собрания — там, где это было возможно. Но, как отмечают исследователи, тогда не было и речи, чтобы обвиняемый мог выступить в свою защиту. Проще говоря, по решению «тройки» человек признавался виновным, скажем, в сотрудничестве с оккупантами… По его адресу направляли «конкретного человека» с наганом или автоматом ППШ — и все правосудие!

Об одной из таких трагических историй рассказывает журналист Виктор Хурсик в книге «Кроў і попел Дражна»: целая деревня Дражно в Стародорожском районе была уничтожена партизанами. Некоторые авторы теперь называют более чем 200 погибших «пособниками оккупантов». Но когда (пусть даже и во время войны!) одним махом уничтожают такое количество не оккупантов, а своих, «тутэйшых», — это страшное правосудие!

Уже в стабильные советские времена, в ночь на 9 июля 1981 года, на озере Большое Осовище в Гомельской области были убиты инспектор Мозырской рыбоохраны и следователь прокуратуры. По подозрению арестовали пятерых местных жителей. Следствие велось полтора года. Обвиняемые признали себя виновными в совершении преступлений. Гособвинитель настаивал на применении к ним высшей меры наказания. Суд же приговорил троих к 15 годам лишения свободы, одного — к восьми и еще одного — к двум годам. Истинные убийцы нашлись только через два года, в апреле 1983-го. За это время они убили двух милиционеров и совершили десятки грабежей.

Настоящих убийц — семью Коновальчуков из Калинковичей — обнаружили случайно. И вполне могло быть, что дело «замнут», — настолько неприятна была не только для следователей, но и для

руководителей Беларуси допущенная «ошибка». Громко признаваться в ней не хотел никто.

Тогда 27 ноября 1983 года в газете «Известия» появилась статья (со всеми признаками журналистского расследования) Николая Матуковского «Тень одной ошибки»…

…Собственно говоря, мы не ведем речь об отрицании государственного правосудия как такового. Мы ведем речь только о том, что, каковы бы ни были начальники, какими бы мотивами они ни руководствовались, но — от сотворения мира — они будут договариваться между собой. И очередной Иешуа Га-Ноцри будет ожидать своего распятия… Помочь каждому из них может только истина. Тогда в дело и вступают те, кто профессионально обеспечивает гласность. Тогда появляются журналистские расследования.

## Где и когда

Принято считать, что журналистское расследование как жанр (или вид — как считают некоторые исследователи) возникло в США. Об этом, в частности, пишет опытнейший представитель этого жанра (или вида...), руководитель Петербургского агентства журналистских расследований, известный российский журналист Андрей Константинов: «*Стоит признать, что журналистское расследование как жанр в его современном понимании обязано своим рождением Америке*» (Журналистское расследование. История метода и современная практика / под ред. А. Д. Константинова. М.: «ОЛМА-ПРЕСС», 2001. С. 23).

В многочисленных русскоязычных статьях и исследованиях приоритет США как родины журналистских расследований подтверждается многократно.

Вот автореферат кандидатской диссертации Марии Спасовой (Краснодар). Она считает, что зарождение феномена расследовательской журналистики именно в США в начале XIX века было предопределено рядом факторов: экономических (становление капитализма), идеологических (пуританские стандарты постепенно трансформируются в более светские идеалы демократии и гражданской добродетели), исторических (в том числе — децентрализация американской прессы).

По ее мнению, в Америке «...*родоначальником массовых изданий явилась не светская пресса, а религиозная. Именно христианская пресса положила начало массовой журналистике, в том числе и так называемой «макрейкерской»* (макрейкеры — разгребатели грязи, так в США называли журналистов, выступавших с разоблачениями коррупции. — *А. Г.*) (Спасова М. В. Специфика журналистского расследования в американских СМИ (от макрейкеров до импичмента Клинтона). Краснодар, 2009. С. 11).

Но, разумеется, «разгребанием грязи» занимались не только клерикальные СМИ.

В США же появилась одна из самых удачных, на взгляд автора, формулировок жанра. Бывший заместитель редактора-распорядителя газеты «Newsday» Роберт Грин определил журналистское расследование следующим образом: «*…материал, основанный, как правило, на собственной работе и инициативе, на важную тему, которую отдельные лица и организации хотели бы оставить в тайне*» (Журналистское расследование. История метода и современная практика / под ред. А. Д. Константинова. М.: «ОЛМА-ПРЕСС», 2001. С. 13).

В этой формулировке, кстати, содержится сразу несколько основных признаков жанра: во-первых, должна присутствовать **тайна**, которую прячут и которую нужно раскрыть.

Во-вторых, тайна должна быть **общественно важной**. Иначе это тема не для расследования, а для рядовой корреспонденции.

В третьих, материал должен быть написан **собственными силами** — то есть судебные отчеты, которые очень многие СМИ любят называть расследованиями, таковыми, по сути, не являются. Потому что информация получена не собственными силами, **журналист ничего не расследовал** — он только переписал то, что сделали органы следствия.

В-четвертых, должны быть названы или хотя бы обозначены **лица или организации**, которые скрывают тайну. То есть те, кого в теории называют **«злодеями расследования»**. В американской традиции — bad guys, «плохие парни».

И еще: все — почти без исключения — авторы как об одном из основных признаков жанра говорят о **множественности источников информации**.

А что касается Беларуси… Считается, что до начала 1990-х журналистских расследований в Беларуси не было. Во всяком случае, ни один источник информации о них не упоминает.

## Журналистские расследования в Беларуси

Для таких утверждений есть основания. В Беларуси был иной строй, а СМИ, что могли бы предоставлять свои страницы «грязекопателям» (которых практически не было), отсутствовали. В то время как в США шла децентрализация прессы, на территории Беларуси в 1838 году создается по сути «вертикаль» СМИ: власти начали издавать в пяти губерниях «Губернские ведомости» с преференциями из бюджета.

Но, с другой стороны, общество жило, и попытки анализировать происходящие события, раскрывать тайны, доносить происходящее до

современников и потомков также были. И, главное, в немалом количестве тогдашних публикаций можно заметить четко выраженные признаки жанра. В том числе — ссылки на разные источники информации, что для журналистского расследования, как мы уже отмечали, обязательный признак. И что, подчеркнем сразу, не всегда соблюдалось в материалах американской прессы, которые выше отмечались как первые в США расследования…

Возьмем летопись, известную как Хроника литовская и жемойтская, датируемую XVII веком (Полное собрание русских летописей: в 43 т. М., 1980. Т. 32). В ней говорится, например: «*О поражцѣ Литвы над Мстиславом. Скирмон, сын Микгайловичь, брат Гинвилов, панством Литовским щасливе справуючи, Мстислава, князя слуцкого, з войском русским против собѣ идучого, поразил, яко лѣтописцы сведчат, речь свою так провидячи…*» (С. 21).

Это «яко лѣтописцы сведчат» вполне — по тем временам — приемлемая ссылка на источники информации. Не было издательств, не было томов и страниц, не было — в конце концов — других источников информации.

Или: «*Тое тут для того припомнлем, абы не было в подивеню свѣдоцтво лѣтописца литовского о Лездейку…*» (С. 40). Опять же — ссылка на источник информации вполне — по тем временам — нормальная. Если грамотные люди в ту пору были наперечет, то уж летописцы — тем более...

Приводятся ссылки на документы: в этой же летописи цитируется, например, Грамота Мамаева к великому князю Дмитрию.

В белорусских газетах конца XIX и начала XX века примеров публикаций, в которых присутствуют признаки жанра журналистского расследования, не так уж и мало.

Возьмем хотя бы не самую заметную газету тех времен — «Полоцкие епархиальные ведомости» (№ 9, 1 мая 1885 года). Там среди прочего опубликована большая статья «Крест преподобной Параскевы, княжны Полоцкой» за подписью А. Сапунова. В ней говорится об исчезнувшей святыне (тайна), высказывается гипотеза об ее исчезновении со ссылками на вполне адресные источники информации. Их много — около десятка. Высказываются предположения о тех, кто способствовал исчезновению («злодей расследования»). Всю эту информацию автор раздобыл собственными силами.

Немало практически полноценных расследований находим в газете «Минский листок», которая издавалась в Минске с 1886 по 1902 годы. Там опубликован целый ряд материалов под общей



*Журналисты ждут вестей о переговорах по урегулированию ситуации на востоке Украины*

рубрикой «Злобы дня». В номере от 24 апреля 1890 года — статья о плохом качестве мяса в минских лавках. Достаточно много источников информации: автор, его кухарка, пристав, городовые, хозяин лавки, ветеринар. Автор пытается «подняться над фактом» и ссылается на работу местной Думы…

В номере от 25 мая 1890 года опубликовано расследование преступной деятельности по зарабатыванию денег на спекуляции незаконнорожденными детьми. В номере от 10 июня того же года расследуется ситуация с актерами местного театра, которые, получив неплохой аванс, сбегают из Минска на поиски других источников легких денег.

Все темы вызывают общественный интерес, присутствует некая тайна, использованы источники информации, прямо назван или обозначен «злодей расследования»…

Материалы такого рода появлялись в белорусской прессе достаточно регулярно. Вот очень интересный пример.

…1922 год, массовые аресты белорусов на Белосточчине. Появились сведения, что во время следствия над политическими заключенными в Белостоке администрация применяла физическую силу. А заключенные объявили голодовку с требованием отделить их от уголовников, предоставить право свободных (а не через решетку) встреч с родными. Тогда администрация тюрьмы начала применять искусственное кормление. Пошла информация, что заключенных избивали, издевались над ними. С женщинами обходились так же, как с мужчинами, и они ходили окровавленные, в синяках (Говін С. В. Друк Заходняй Беларусі. Мінск: Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, 1974. С. 17).

Для того чтобы опубликовать в оппозиционной прессе что-то основательное, нужно было провести полноценное расследование, найти надежные и достоверные источники информации. Редакции газеты «Вольны сцяг» удалось получить текст письма, которое передал на волю один из заключенных: «*Звяртаюся да паслоў беларускага пасольскага клуба з мальбою аб абароне… Прышліце камісію дактароў, прыязджайце самі. Паглядзіце на «збаўленых ад голаду» ахвяр гуманнасці астрожнай адміністрацыі. Аўгення Матэйчук і Захаровіч пасля паноўніх «кармленняў» зусім аслабелі… раты ў іх разарваны… твары папухлі…*» (Вольны сьцяг. 1923. 31 жніўня).

Кроме этого письма, в материале был использован еще один надежный и достоверный источник информации — свидетельства посла (депутата сейма) П. Волошина. Он установил, что в карточке заключенного Бондарчука было написано: «Умер от воспаления легких». Но обследование показало, что у него был выколот глаз, повреждена глотка. А после завершения голодовки умерли еще двое политзаключенных-белорусов.

«*Загаладалі і кабеты. Звольненыя ад галадоўкі толькі Вера Маслоўская, Сяргей Баран і Зося Старасельская, якія зусім хворыя. Усіх галадаўшых на трэці дзень сталі штучна «ажыўляць», пры гэтым абходзіліся зусім па-зьверску. Палітычных кабет пачалі карміць, літаральна зьдзекуючыся, разам з угалоўнымі. У сьценах беластоцкага астрогу толькі і чуваць раздзіраючыя душу стогны палітычных па камерах і карцэрах… Гэта — «кормяць»… Калі ня прымеце мераў, дык застануцца жывымі толькі тыя трое хворых, што не галадаюць…*

*Кормяць нас во як: тры разы на дзень рэдкім жытнім наварам. Пачынаюць карміць на другі, на трэці дзень галадоўкі. Пры гэтым выкручваюць рукі, раздзіраюць палкай рот, каб уставіць кішку… Немагчыма перанасіць крыкі здзекуемых… Кажуць, з кабетамі абыходзяцца пры гэтым «далікатней», хаця ў большасці — абкрываўленыя раты*» (Вольны сьцяг. 1923. 31 жніўня).

Структура материала, опубликованного в газете, выглядела следующим образом: «Адкрытае пісьмо да Пана Міністра Унутраных Спраў» за подписью «Пасол Сойму Браніслаў Тарашкевіч» и основательный текст «От редакции», где сообщается новая информация — со ссылкой на источники.

В наличии тайна — то, как обходятся с заключенными. Есть немалая работа журналистов по поиску сведений, большое количество источников информации, есть «злодеи расследования» — администрация тюрьмы. Что же это, если не расследование?

В этой же газете в сентябре 1923 года опубликованы расследования о притеснениях Вильнюсской белорусской гимназии, о народном образовании в Западной Беларуси и ряд других.

…Что касается советского периода в Беларуси, уже упоминалось громкое расследование Николая Матуковского «Тень одной ошибки». И только объем публикации не позволяет приводить другие примеры такого же рода из республиканских и областных газет. Хоть они не затрагивали проблем власти и после них президенты не уходили в отставку, но расследования социальные, экономические, криминальные — пусть даже на уровне регионов — безусловно, были.

То есть, если даже считать от 1885 года, когда «Полоцкие епархиальные ведомости» опубликовали «Крест преподобной Параскевы, княжны Полоцкой», то получается, что к началу 1990-х белорусские журналисты с большей или меньшей активностью работали в жанре журналистского расследования уже больше века.

# Выкарыстанне ілюстрацыі на старонках газеты

*Вадзім ЗАМІРОЎСКІ,*
*Вікторыя ЛУД*

**Фотаздымкі — важны сродак інфармавання, які часам уздзейнічае мацней за тэкст. Здымкі выконваюць ролю загалоўкаў, якія прыцягваюць увагу чытачоў. Фотаілюстрацыі — гэта таксама важны элемент дызайну выдання. Без фотаздымкаў газета, часопіс, сайт выглядаюць сумнымі і прайграюць у канкурэнтнай барацьбе ілюстраваным выданням.**

У журналістыцы вызначаюцца такія крытэрыі, паводле якіх можна адрозніць добрыя здымкі ад дрэнных:

1. Здымак павінен быць рэзкім і тэхнічна якасным.
2. У кадры павінны быць людзі.
3. Трэба, каб у кадры былі дынаміка, эмоцыі ды падзеі.
4. Здымак мусіць мець мастацкую вартасць — гэта не павінна быць простая фіксацыя факта.
5. Здымкі абавязаныя распавядаць пра штосьці.

Трэба памятаць, што гэтыя крытэрыі не ўніверсальныя — яны будуць працаваць толькі ў галіне фотажурналістыкі, а яшчэ дакладней — у навінавай журналістыцы. Тут асабліва важна прытрымлівацца тэхнічнай якасці ў працы. То бок здымак павінен быць рэзкім, зробленым з правільнай экспазіцыяй (вытрымка і дыяфрагма).

У кадры фотажурналіста заўсёды павінны быць людзі. Нават калі атрымана заданне зняць нейкі будынак, напрыклад, офіс банка, у любым выпадку на здымку павінен быць чалавек. Не важна, хто гэта будзе — просты мінак на вуліцы ці працаўнік банка. Напрыклад, калі трэба сфатаграфаваць паштоўку, — яна можа ляжаць на далоні. Чаму гэта так? Па-першае, гэта звязана з псіхалогіяй людзей, якія чытаюць СМІ, каб даведацца пра жыццё іншых людзей. Па-другое, калі ты бачыш чалавека ў кадры, — выява адразу





робіцца жывой, рэпартажнай. Такі імпульс дае чалавечы мозг. Акрамя таго, прысутнасць чалавека ў кадры дазваляе зразумець маштаб аб’ектаў.

Для навінавай журналістыкі важныя тры паняцці: дынаміка, эмоцыі і падзеі. Калі вы працуеце для друкаванага выдання, то першая ваша задача — падмацаваць тэкст здымкамі, каб чытачу былі цікавыя як мінімум подпісы да фатаграфій, а як максімум — прачытаць увесь матэрыял. Здымак на газетнай паласе — гэта вітрына, якая павінна зацікавіць. Таму фатаграфіі мусяць «працаваць» разам з загалоўкам.

Здымак — гэта ўдарны інструмент, які чапляе чытача. Таму вышэйзгаданыя тры параметры такія неабходныя для журналістыкі. Хоць неабавязкова, каб усе гэтыя тры якасці прысутнічалі ў адным здымку.

Калі вы фатаграфуеце чалавека, у якога бярэцца інтэрв’ю, то, вядома, у такім здымку не будзе падзей, але ў ім могуць быць эмоцыі і дынаміка. Нават калі здаецца, што атрымліваецца статычны партрэт, у ім усё адно пажадана знайсці гэтыя два неабходныя параметры.

Калі вам патрэбны партрэтны здымак для інтэрв’ю, то лепей фатаграфаваць чалавека цягам размовы. Ваш герой праз некаторы час звыкнецца з тым, што яго здымаюць. У сярэднім праз 10 хвілін чалавек прызвычайваецца да камеры і да самога працэсу — у гэты момант у вас ёсць шанц атрымаць ад героя не штучныя эмоцыі. Гэта будзе цікавей, чым здымак чалавека, які пазіруе з тэлефонам каля вуха або проста глядзіць у камеру.

Калі вам даводзіцца сумяшчаць функцыі фатографа і журналіста, то лепш адразу падрыхтаваць фотаапарат, уключыць яго, выбраць патрэбны аб’ектыў і пакласці яго на стол. Неабходна папярэдзіць суразмоўцу пра тое, што ў вас ёсць намер зрабіць пару здымкаў. Калі будзе наладжаны кантакт, пафатаграфуйце падчас таго, як чалавек захоплена адказвае на вашы пытанні.

У дадзенай сітуацыі майстэрства журналіста ў тым, каб суразмоўца не звяртаў увагі на камеру.

Здымаць падзеі ў гэтым плане нашмат прасцей. Тут можна знайсці ўсе тры параметры: і дынаміку, і эмоцыі, і падзею. Напрыклад, вы робіце рэпартаж з канцэрта — гэта адначасова і дынаміка (людзі, якія танчаць, або музыкі), і падзея (сам канцэрт), і эмоцыі (твары прысутных).

Фотарэпарцёр мусіць памятаць, што здымкі павінны мець эстэтычны выгляд. Нават калі вы здымаеце аварыю, у кадры павінна быць кампазіцыя. У гэтым выпадку вы пазбегнеце той сітуацыі, калі здымак нагадвае міліцэйскія зводкі. Не абавязкова паказваць зламаны метал ці жорсткія сцэны, але можна сфатаграфаваць людзей, якія рэагуюць на ўбачанае.

Фатаграфуючы, вы мусіце дакладна разумець, што хочаце сказаць гэтым здымкам: пра якую праблему распавесці ці якой эмоцыяй падзяліцца. Калі вам удалося перадаць чытачу вашы эмоцыі або думку, — задача выкананая.

## Як знайсці добрыя фотаздымкі?

За якасныя здымкі гэтаксама, як і за якасны тэкст, трэба плаціць, таму што фатаграфія з'яўляецца такім жа прадуктам інтэлектуальнай працы, як журналісцкі артыкул. Таму, калі ў рэдакцыі ёсць фінансавыя магчымасці, то варта падпісацца на стужку інфармацыйнага агенцтва, дзе працуюць прафесійныя фотакарэспандэнты.

Калі ў рэдакцыі шмат сапраўды ўнікальных матэрыялаў, то падпіскі на інфармацыйную стужку фотаагенцтва недастаткова. У такім выпадку аптымальным варыянтам будзе мець штатнага фатографа. Зрабіце базу кантактаў фатографаў, якія знаходзяцца ў розных рэгіёнах і гатовыя супрацоўнічаць з вамі. Так вы зможаце аператыўна атрымліваць інфармацыю з розных гарадоў або знаходзіць здымкі на тэмы, якія вас цікавяць.

У горшым выпадку, калі ў рэдакцыі нестае сродкаў на аплату прафесійных карэспандэнтаў, здымаць даводзіцца самім журналістам, якія пішуць тэксты. Гэта не самы лепшы варыянт, таму што якасна рабіць дзве працы адначасова практычна немагчыма.

Непажадана (хоць і дапушчальна) выкарыстоўваць здымкі з фотастокаў, якія могуць каштаваць танна альбо быць наогул бясплатнымі. Стокавая фатаграфія пазбаўляе матэрыял унікальнасці і стварае пэўнае клішэ (напрыклад, калі да навіны пра судовы працэс у газеце ці на сайце прыкладаецца здымак судзейскага малатка замест «жывога» фотарэпартажу). Такі матэрыял будзе менш чытаны.

Не заўсёды варта абіраць у якасці ілюстрацый здымкі з заходніх стокаў, на якіх паказаныя іншага выгляду хаты, людзі і г. д. Напрыклад, часта ў артыкулах пра здароўе выкарыстоўваюць фатаграфіі заходнееўрапейцаў, якія вонкава не падобныя да нашых чытачоў (славянскага тыпу). Гэта адразу выклікае недавер. Адпаведна лепш выкарыстоўваць расійскія (photoexpress.ru), украінскія стокі. З беларускіх рэсурсаў журналістаў часта ратуе photo.bymedia.net, дзе можна бясплатна атрымаць ілюстрацыі, зробленыя ў нашай краіне.

Памятайце, што пры выкарыстанні чужых фатаграфій заўсёды трэба падаваць крыніцу і імя аўтара, калі яно пазначанае.

## Абіраем фотатэхніку для журналісцкай працы і ідзём на «палявыя работы»

Мадэльны шэраг фотаапаратуры часта абнаўляецца і пашыраецца. Але заўсёды ёсць базавыя функцыі, на якія журналіст павінен звярнуць найбольшую ўвагу, выбіраючы тэхніку — камеру і оптыку (аб'ектывы).

Сёння часцей за ўсё пытанне пры выбары тэхнікі заключаецца ў тым, што купіць: дарагую кампакт-камеру (так званую «мыльніцу») альбо танную люстраную камеру.

У першым выпадку, хутчэй за ўсё, гэта будзе дастаткова функцыянальны фотаапарат невялікіх габарытаў (што зручна), без здымнай оптыкі, з убудаванай успышкай. Калі вы спыніцеся на такой камеры, то варта звярнуць увагу на наступныя параметры: наяўнасць механічнага і паўаўтаматычных рэжымаў (прыярытэт вытрымкі і прыярытэт дыяфрагмы), фокусная адлегласць (кратнасць зуму), фізічныя памеры матрыцы (чым яны большыя — тым лепшая якасць), светласіла аб'ектыва. Менш важнай, але істотнай, з'яўляецца наяўнасць наступных функцый: магчымасць запісу файлаў без іх сціскання (raw ці іншы), велічыня дысплея камеры, запіс відэа. Добра, калі камера можа перадаваць здымкі на камп'ютар праз Wi-Fi.

Сёння кошт добрай кампакт-камеры набліжаецца да кошту люстраной камеры пачатковага ўзроўню. Я рэкамендую спыніць увагу на люстраной камеры, якая дасць вам больш магчымасцей, дазволіць з цягам часу ўдасканаліць парк тэхнікі (зменная оптыка, успышкі) і забяспечыць лепшую якасць выяваў за кошт большых памераў матрыцы, чым у кампакт-камеры.

Існуе вялікае мноства камер, але большы распаўсюд атрымалі лічбавыя люстраныя малафарматныя камеры. Яны выпускаюцца некалькімі фірмамі, але я рэкамендую спыніцца на двух самых буйных вытворцах фотатэхнікі — «Canon» і «Nikon». Вы павінны памятаць, што калі выбіраеце адну марку фотатэхнікі, то вам давядзецца набываць оптыку, успышку толькі гэтага вытворцы ці адаптаваныя дзеля яго.

Сёння на рынку існуе багаты выбар люстраных камер — ад аматарскіх, таннейшых, да прафесійных, цана якіх можа дасягаць некалькіх тысяч еўра і больш. Аптымальна мець прафесійную камеру. Яна абароненая ад пылу, вільгаці, мае вялікі рэсурс працы і вытрымае розныя перагрузкі.

Такім чынам, калі вы спынілі свой выбар на лічбавай люстраной камеры, то неабходна звярнуць увагу на наступныя характарыстыкі:

***Фізічны памер матрыцы.*** Лічбавая тэхніка настолькі развілася, што дасягнула стужкавай якасці выявы. Звычайна ў лічбавых люстраных камер памер матрыцы ў 1,6 разоў меншы за стандартны стужкавы кадр, але камеры больш высокага класа маюць поўнапамерны кадр, які называецца «fullframe». Гэты крытэр важны, таму што ад велічыні матрыцы залежаць і якасць выявы, і фокусная адлегласць аб'ектыва, які будзе ўсталяваны на камеры. Прасцей кажучы, чым меншы памер матрыцы, тым большая фокусная адлегласць

кожнага аб'ектыва. Чым большы фізічны памер матрыцы, тым меншая глыбіня рэзкасці.

***Колькасць мегапікселяў.*** Натуральна, чым больш мегапікселяў, тым лепш. Але на сённяшні дзень любая лічбавая камера забяспечвае дастатковую якасць для газеты або інтэрнэт-рэсурсу.

***Матэрыял корпуса.*** Больш дарагія мадэлі выкананыя з магніевага сплаву, які мае высокі ўзровень трываласці, больш танныя — з пластыку. Таксама ад цаны і матэрыялу залежыць абароненасць камеры ад пылу, вільгаці і ўдараў.

***Колькасць кропак аўтафокусу і іх адчувальнасць.*** Чым больш кропак аўтафокусу, тым лепш.

***Год выпуску мадэлі і працэсар.*** З развіццём лічбавых тэхналогій выкарыстоўваюцца новыя алгарытмы апрацоўкі і запісу выяваў. Натуральна, сучасныя камеры забяспечваюць лепшую якасць і больш высокую адчувальнасць у параўнанні з тэхнікай, што была выробленая некалькі гадоў таму.

***Памер дысплея і наяўнасць функцыі «lifeview».***

***Мінімальная і максімальная адчувальнасць.***

***Хуткасць камеры (колькасць кадраў у секунду).***

***Магчымасць запісу відэа.***

***Наяўнасць убудаванай успышкі*** не вельмі істотная, таму што яе не рэкамендуецца выкарыстоўваць пры здымцы.

У вялікай ступені якасць фатаграфій залежыць не толькі ад камеры, але і ад аб'ектыва. Калі вы купляеце камеру з надпісам «body», то да яе дадаткова трэба падбіраць оптыку. Калі надпіс «kit», то камера ідзе ў камплекце са стандартным недарагім аб'ектывам. У такім выпадку звярніце ўвагу на яго параметры.

Асноўныя характарыстыкі аб'ектываў:

***Фокусная адлегласць*** (вымяраецца ў міліметрах). Проста гаворачы, маецца на ўвазе тое, наколькі аб'ектыў можа аддаліць або наблізіць прадметы, якія трапляюць у поле яго зроку. За штатную (стандартную) фокусную адлегласць прынята браць 50 мм, бо фотаздымак, які атрымліваецца з дапамогаю такога аб'ектыва, больш звыклы нашаму воку. Аб'ектывы з меншай фокуснай адлегласцю называюцца караткафокуснымі, альбо шырокавугольнымі. З вялікай фокуснай адлегласцю, большай за 50 мм, — даўгафокусныя (тэлеаб'ектывы). Чым фокусная адлегласць меншая, тым большы вугал ахопу прасторы, і наадварот. Акрамя таго, чым большая фокусная адлегласць, тым меншая глыбіня рэзкасці.

Існуе оптыка з пераменнай фокуснай адлегласцю — так званыя zoom-аб'ектывы. Вядома, у журналісцкай працы яны больш зручныя, таму што ў вас не заўсёды будзе магчымасць падысці да патрэбнага вам аб'екта або хутка аддаліцца ад яго. Аднак аб'ектывы з фіксаванай фокуснай адлегласцю («фікс») каштуюць танней, і часцей за ўсё яны даюць больш высокую якасць фотаздымка.




Фокусная адлегласць заўсёды пазначаецца непасрэдна на аб'ектыве (напрыклад, 24 мм, 50 мм, 70–200 мм). Калі на ім напісана, напрыклад, «17 мм» — гэта значыць, што ў вас шырокавугольны аб'ектыў, прызначаны для фатаграфавання з больш блізкіх адлегласцей. Калі стаіць пазнака «200 мм» — гэта тэлеаб'ектыў, прыдатны для таго, каб здымаць аб'екты на вялікай дыстанцыі. Калі пазначана, напрыклад, «24–105 мм», — то гэта zoom-аб'ектыў, які пакрывае розныя фокусныя адлегласці.

На практыцы вам неабходна мець набор аб'ектываў, што закрывае фокусную адлегласць ад 17 да 200 мм. Часцей за ўсё ў журналістыцы выкарыстоўваюцца аб'ектывы з наступнымі адрэзкамі фокуснай адлегласці: 17–40, 24–70, 70–200 мм.

Наступная, вельмі важная характарыстыка оптыкі — гэта ***светласіла*** аб'ектыва. Маецца на ўвазе здольнасць прапускаць уваходныя промні святла, не затрымліваючы іх. Чым менш святла паглынае шкло аб'ектыва, тым ён светламацнейшы. Светласіла вызначаецца максімальна адкрытай дыяфрагмай на аб'ектыве і можа мець, напрыклад, наступныя значэнні: 1:2,8; 1:4; 1:5,6 і інш. Трэба разумець, што значэнне дыяфрагмы 1:2,8 большае за 1:4. Інакш кажучы, аб'ектыў са значэннем максімальна адкрытай дыяфрагмы1:2,8 лепшы, чым, напрыклад, аб'ектыў са значэннем светласілы 1:4. Аб'ектывы з пераменнай фокуснай адлегласцю (zoom-аб'ектывы) могуць мець пераменнае значэнне светласілы. Напрыклад,

распаўсюджаны kit-аб’ектыў 18–55 мм мае зменную светласілу 1:3,5–1:5,6.

На практыцы з больш светламоцным аб’ектывам вы зможаце здымаць у горшых умовах асвятлення. Аптымальным выбарам будзе оптыка са светласілай 1:2,8–1:4 і вышэй. З аб’ектывам са светласілай 1:5,6 і менш і з невысокай якасцю шкла вам будзе цяжка працаваць ва ўмовах недастатковай асветленасці.

***Факусіроўка.*** Аб’ектывы могуць мець ручную альбо аўтаматычную факусіроўку. Сёння практычна ўсе аб’ектывы маюць аўтафокус, але ўсё адно варта звярнуць увагу на дзве літары — «af», якія азначаюць наяўнасць гэтай функцыі. Прывод аўтафокуса можа быць двух відаў: знешні ці ўнутраны. Гэта вельмі важна, бо ўплывае на хуткасць аўтафокуса. Вядома, перавагу лепш аддаваць аб’ектывам з унутраным прыводам, таму што яны будуць хутчэй працаваць.

Хуткасць аўтафокуса — вельмі важная характарыстыка, таму што пры здымцы дынамічных аб’ектаў камера павінна паспець навесці рэзкасць. Нікому не патрэбны нярэзкі здымак, напрыклад, футбольнага матча.

Таксама важнай характарыстыкай з’яўляецца мінімальная дыстанцыя факусіроўкі — найменшая адлегласць, з якой аб’ектыў можа навесці рэзкасць. Чым яна карацейшая, тым лепш. На практыцы гэта азначае, што вы зможаце ўзяць больш буйны план з меншай дыстанцыі.

***Сістэма стабілізацыі.*** Дадзеная характарыстыка з’яўляецца неабавязковай, але наяўнасць гэтай сістэмы істотна ўплывае на кошт оптыкі. Сістэма стабілізацыі дазваляе пазбавіцца ад так званай «шавялёнкі», г. зн. вам не перашкодзяць зрабіць якасны здымак ні натуральнае трымценне рук, ні варушэнне пры дыханні і г. д. Функцыя стабілізацыі выявы карысная, але можна за яе не пераплачваць, калі будзеце прытрымлівацца некаторых парадаў.

1. Калі ў вас настроена доўгая вытрымка пры здымцы (даўжэй за 1/30 с), то вам неабходна стабілізаваць камеру, каб на яе не ўздзейнічалі вібрацыі цела.

2. Не дыхайце глыбока, а лепш затрымайце дыханне ў момант здымкі. Трэба ўперці локці ў жывот — так вы зафіксуеце камеру. Калі ёсць магчымасць прысесці на адно калена, пастаўце локці на другое калена — камера будзе яшчэ больш устойлівай.

Такім чынам, камеру мы выбралі. Цяпер вы адпраўляецеся на здымку. Адразу трэба падрыхтавацца да здымкі — гэта азначае 50 % поспеху. Варта паглядзець, што і як здымалі на такую ж або падобную тэму калегі ў Беларусі і за мяжой. Калі вы падрыхтуецеся, — будзеце разумець, якія фатаграфіі жадаеце атрымаць у выніку. Можа, з першага разу атрымаецца не так, як у прафесіяналаў, але ў вас будзе прыклад таго ўзроўню, да якога патрэбна імкнуцца.

Паспрабуйце паглядзець на самыя звычайныя рэчы нестандартна. Трэба рэальна разумець, што да вас усё знята і на кожны запыт у інтэрнэце вы атрымаеце велізарную колькасць здымкаў. Пастаўце перад сабой пытанне: вы хочаце зрабіць такое ж альбо жадаеце стварыць унікальны прадукт, які будзе цікавейшы чытачу. Унікальнасць вашага рэпартажу будзе заключацца ў непадобнасці да астатніх, у вашым аўтарскім поглядзе або інтэрпрэтацыі аб’екта, працэсу, падзеі. Напрыклад, гэта могуць быць незвычайнае кампазіцыйнае рашэнне, мясцовая ўнікальнасць, асаблівасць.

Скажам, вы збіраецеся на інтэрв’ю з высокапастаўленым чыноўнікам. Дакладна, што ў інтэрнэце ёсць шмат яго здымкаў, і, хутчэй за ўсё, яны будуць нагадваць «фатаграфію на пашпарт». Ваша задача — зрабіць непадобны, дынамічны здымак, і пажадана, каб не было відаць пазёрства героя. У гэтым выпадку лепш за ўсё «падглядзець» за вашым героем, калі ён знаходзіцца ў натуральным для яго асяроддзі. Замест таго каб прапанаваць яму папазіраваць за сталом, папрасіце яго паводзіць сябе натуральна, займацца сваімі справамі, здымайце ў працэсе. Калі фатаграфуеце на прэс-канферэнцыі, — паспрабуйце зафіксаваць эмоцыі і жэсты выступоўцаў. Амаль у кожнага чалавека можна «злавіць» негатыўныя і пазітыўныя эмоцыі. У выніку вы зможаце падабраць здымак пад ваш загаловак.

Калі вам даводзіцца здымаць нейкую падзею, свята або масавае мерапрыемства, таксама варта падрыхтавацца загадзя. Хутчэй за ўсё, на мерапрыемстве будзе адзін ці некалькі ключавых момантаў. Гэта могуць быць «штампы», але іх важна зняць, таму што часцей за ўсё такія эпізоды і распавядаюць аб самой падзеі. Напрыклад, падчас свята Вадохрышча ключавым момантам будзе купанне. Калі вы толькі вучыцеся, то не саромейцеся падглядаць тое, што робяць іншыя, прафесійныя, фотарэпарцёры, але не абавязкова здымаць менавіта тое самае, што і яны.

Падчас здымкі несанкцыянаванага мерапрыемства будзьце вельмі асцярожнымі. Калі вы толькі вучыцеся, то пажадана працаваць у пары з кімсьці, хто будзе стаяць за вашай спінай і прыглядаць за вамі. На такіх здымках важна абазначыць сябе вонкава — камізэлькай «Прэса» або вялікім пасведчаннем. Ні ў якім разе нельга браць у рукі сцягі, лозунгі, мікрафоны, нават калі вас папрасілі іх патрымаць. Не здымайце доўга адно дзеянне і заўсёды сачыце за тым, што адбываецца ў вас за спінай. Калі гэтага не рабіць, то можна апынуцца ў ачапленні або затрымацца паміж мітынгоўцамі і супрацоўнікамі міліцыі. У выпадку, калі вас затрымліваюць супрацоўнікі міліцыі, паспрабуйце прыцягнуць увагу калег-журналістаў.


Генадзь Бураўкін і Рыгор Барадулін наведваюць у шпіталі Васіля Быкава

кажучы, калі чытаў гэтую кнігу, я толькі ахаў і здзіўляўся дасведчанасці Глеба. Ён жа чалавек новай фармацыі, новага пакалення, але я яшчэ раз пераконваюся, што Глеб — гэта тая змена, якая дужа патрэбная Беларусі. Нашая беларускасць трымаецца, безумоўна, якраз на такіх волатах, на такіх вяршынях, як Някляеў, і на такой маладой руні, як Глеб. Рунь — гэта для вачэй, для сэрца, рунь малодзіць душу і прымушае забыцца на drabязу. Але Глеба адным словам не вызначыш… Пра яго можна яшчэ сказаць, што гэта ўжо не дрэўца, а малады гаёк». Калі ж я прывёў характарыстыку, якую Лабадзенку дала Марыйка Мартысевіч («У Глебе элітная нацыянальная адукацыя абярнулася іншым бокам медаля: ён бязмежна верыць у беларускую Беларусь і змагаецца за яе сваімі сродкамі. Альтэрнатыўнымі. Можна нават сказаць, магічнымі… Лабадзенка — цімуравец, а дакладней, сам Цімур, які малюе бел-чырвона-белыя значкі на плотах тых людзей, якім дзячыць за іх шматгадовую працу сваёй дапамогай… Глеб Лабадзенка — жаўнер-альтэрнатыўшчык на службе ў Беларусі. Але не ў агульнапрынятай Беларусі, а ў нашай, беларускай»), Барадулін пагадзіўся: «Так, рэкрут — гэта правільна. Я ж гавару: чым Беларусь і выжывае, чым выжываюць нашы культура і мова, — гэта тым, што ў той час, калі здаецца, што ўсё ўжо знішчана, тады Бог, Лёс даюць патрэбнага чалавека, дый не аднаго — дзясяткі чалавек, якія і трымаюць на сабе Беларусь».

*15 лістапада*. На прэзентацыі «Вушацкага словазбору» было не ўбіцца ў невялічкае памяшканне кнігарні «ЛогвінаЎ», дык я правёў увесь час у калідоры. Толькі напрыканцы, па просьбе дзядзькі Рыгора, падараваў Наталлі Давыдзенка ружачку і перадаў ад яго паштовачку са словамі ўдзячнасці. Ужо калі прэзентацыя закончылася, папрасіў Уладзіміра Някляева, Генадзя Бураўкіна і Наталлю Аляксееўну сказаць колькі слоў.

Уладзімір Някляеў: «Усялякая кніга Рыгора Барадуліна — гэта падзея не толькі для яго, але і для ўсіх тых, хто сёння яшчэ нешта чытае, хто сёння яшчэ ў нечым беларус. Я кажу: “у нечым” і “нешта”, — бо гэтага “нечага”, на жаль, у нас усё меней і меней. Дык вось, “Вушацкі словазбор” — апроч таго, што гэта выдатная кніга, — яшчэ і намаганне пабольшыць гэтую меншасць. І намаганне вельмі паспяховае, бо ўсе, хто да барадулінскага словазбору ўжо дакрануўся, хто пакупаўся ў бяздоннай чысціні мовы, у сабраных Барадуліным вушацкіх словах, прыказках і прымаўках, не маглі не адчуць, які ён багаты чалавек і які ён дурань, што не цэніць гэтае багацце.

Няма патрэбы даводзіць, што Рыгор Барадулін — геніяльны паэт, але “Вушацкі словазбор” — кніга і для яго ўнікальная, бо напісаная не ім адным. Разам з ім кнігу пісала ягоная маці, пісалі ягоныя сваякі, ягоныя землякі, увесь народ, які, на жаль, сёння не з’яўляецца моватворцам, і таму ягоную працу — працу моватворцы — выконвае паэт Рыгор Барадулін. Апроч гэтага, ён выконвае яшчэ і ролю захавальніка беларускай мовы, і некалі беларускі народ — асэнсаваўшы подзвіг, які здзейсніў Барадулін, — скажа вялікае дзякуй свайму Паэту».

Генадзь Бураўкін: «Гэтая кніга для мяне вельмі дарагая не толькі таму, што гэта кніга Барадуліна, геніяльнага майго сябра, а яшчэ і таму, што ў ёй жыве мая, наша з Рыгорам, родная зямля — Полаччына. Са сцежкамі, з рэчкамі, з азёрамі, з усімі яе фарбамі. Разам з тым гэтая кніга прыкметная яшчэ і тым, што дае, хай не поўны, але адказ на загадку, якую нясе ў сабе Рыгор, як кожны вялікі паэт: адкуль ён, чаму ён такі, чаму жыве гэтым? А жыве ён роднаю зямлёй, народнымі думамі і памкненнямі, нарэшце, жыве роднай мовай. І пры гэтым паказвае ўзор таго, як трэба беражліва ставіцца да жывой, натуральнай, крынічнай мовы, узор таго, як пісьменнік павінен удзельнічаць у ачышчэнні сучаснай мовы ад канцылярызмаў і выпадковасцяў, і больш за тое — удзельнічаць у моватворчасці. Таму гэтая кніга для мяне не проста з’ява, а падарунак маёй душы.

Кажуць, што Барадуліна без беларускай мовы няма. А мне здаецца, што і беларускай мовы без Барадуліна ўжо таксама няма. Няма і не будзе. І колькі будзе жыць беларуская мова — столькі будзе ў ёй жыць Рыгор».

Наталля Давыдзенка: «Гэта суцэльнае задавальненне — працаваць над такімі матэрыяламі, тым больш калі разумееш, што маеш справу з неацэнным скарбам, бо мова — скарб сапраўды неацэнны. Можа, яшчэ не нарадзіўся, а можа, і нарадзіўся ўжо, але яшчэ не вывучыўся сур'ёзны даследчык творчасці Барадуліна, яго жыццёвага шляху, яго асобы, бо Рыгор Барадулін — гэта фігура на ўсю другую палову XX стагоддзя. Ён усё жыццё быў настолькі загружаны, што толькі цяпер, апрацоўваючы яго архівы, пераконваешся ў тым, што ён працаваў удзень і ўначы — многія яго вершы пазначаны менавіта начным часам. А здавалася, што ён толькі і робіць, што лётае па жыцці, але гэта была ўсяго толькі вонкавая лёгкасць — насамрэч ён працаваў, як атамны рэактар, без перапынкаў. Гэтае адкрыццё я зрабіла толькі цяпер, хоць, здавалася, добра ведала яго, бо мы столькі гадоў працавалі разам. І, калі мне будзе дадзена яшчэ часу нешта зрабіць для Рыгора, буду толькі шчаслівая тым…»



*19 лістапада.* Быў у Барадуліна, прачытаў яму тэкст нашай з ім гутаркі, што падрыхтаваў для «Абажура». Заўваг не было. Падпісаўшы «Вушацкі словазбор» рэдактару «Абажура»: «Шаноўнаму Уладзіміру Дзюбу, — каб поспех сябраваў з ім! Дзякуй за ўсё!», — дзядзька Рыгор перадаў новую рэдакцыю свайго віншавальнага верша:

*Удзячныя чытачы,*
*Рыцары «Абажура»,*
*Воз чэрствых клопатаў цегнучы,*
*На свой не глядзіце хмура.*

*Брыда з верхаводкай сплыве.*
*Рашучасць укленчыць нязгодзе.*
*І ў цеснай ад задум галаве*
*Світаць будзе*
*Навагоддзе!*

Пасля я распавёў пра размову з Міхасём Скоблам: майму даўняму, яшчэ з універсітэцкіх часоў, сябру здаецца, нібыта адносіны паміж ім і дзядзькам Рыгорам пахаладнелі. А чаму, з якой прычыны — не можа даўмецца. (Праўда, Міхась не ўпаўнаважваў мяне пра тое гаварыць, нават быў крыху пазлаваўся на мяне, калі даведаўся, што я ўсё ж сказаў. Але я дакладна ведаў, што Барадулін нязменна добра ставіцца да яго: на пісьмовым стале дзядзькі Рыгора доўгі час стаяў фотаздымак Міхася з сынам Вячкам. І таму мне падавалася важным, каб узаемадачыненні паміж імі па-ранейшаму заставаліся бясхмарнымі.) Па рэакцыі Барадуліна было бачна, што ён збянтэжаны гэтым, сказаў, што таксама не разумее, чаму Міхасю так падаецца. І калі я заўважыў, што з майго пакалення Міхась, відаць, адзіны бездакорны сярод літаратараў, дык дзядзька Рыгор не пярэчыў. А калі я прапанаваў нешта сказаць на дыктафон, каб перадаць пасля Скоблу, адразу ж пагадзіўся: «Дарагі Міхась, прабачце мне: у мяне такая дыкцыя — толькі футбольныя рэпартажы весці, міжнародныя асабліва… — гаварыў Дзядзька Рыгор. — Я вось думаю: наш агульны харошы сябар Сяргей Шапран — ён усё-ткі больш украінскі Шапран ці беларускі Шапран?.. Усё роўна, але не маскоўскі — гэта дужа добра… А яшчэ думаю: якая рыфма на Скоблу — каб была сэнсавая і нармальная? Пакуль што мне прыйшло ў галаву толькі: цёпла — Скобла. Дык вось, калі я думаю пра вас, мне цёпла, калі чытаю вас, мне таксама цёпла. Так што: Скобла і цёпла… Званіце, я буду заўсёды рад вашаму званочку… Намі разам столькі ўсяго добрага зроблена — не будзем гэта адкідаць. Ёсць такое вушацкае пажаданне: нас ні вада не размыець, ні свіння не разрыець. Будзем разам, будзем разам». Сказаўшы тое, дзядзька Рыгор праз паўзу папрасіў яшчэ раз уключыць дыктафон і працягваў: «Па-мойму, ёсць такая страва — скаблянка. Гэта не ад Скоблы?.. Калі я троху папраўлюся, закажу Валі, каб яна згатавала… назавём гэта скаблянкай. Вы вып'еце гарэлкі, я вып'ю гарбаты — і за моцную гарэлку, і за смачную скаблянку… Жывіце доўга. Жадаю вам, каб вы былі… гэта даўняе пажаданне, даўні тост: каб вы былі і багаты, і касматы. Касматы — гэта значыць таксама багаты, але багаты не абавязкова на грошы — багаты сябрамі, багаты… Дарэчы, колькі вашаму спадчынніку? Раскажыце мне пра яго…»

…Увечары, калі я ўжо быў дома, пазваніў Барадулін, сказаў, што ў Мінск прыехала жонка Міхася Стральцова, і каб я падумаў, мо варта было б пагаварыць пра Стральцова. Я ж прачытаў дзядзьку Рыгору дзіцячыя вершы Бураўкіна (Генадзь Мікалаевіч літаральна за адзін дзень


З Алесем Камоцкім

напісаў ажно дзесяць вершаў для дзетак, прычым, як прызнаўся, сам не чакаў ад сябе такога), дык, пакуль я чытаў, Барадулін не аднойчы казаў: «Цікава… Цікава…» — а потым зазначыў: «Ёсць цікавыя вершы». І ўжо на развітанне: «Вы пазваніце заўтра. Ці я вам пазваню. Давайце заўтра сазвонімся».

*13 студзеня 2014 г.* Удзень патэлефанаваў Барадуліну — папрасіў напісаць верш да сённяшняга адкрыцця курсаў «Мова нанова», што ладзяць Глеб Лабадзенка і Алеся Літвіноўская. Калі прыехаў да яго, дзядзька Рыгор прызнаўся: думаў, што нічога не атрымаецца, але ўсё ж напісалася:

*НАНОВА!*
*Нямінуча,*
*Гаюча,*
*Нанова*
*Раскрываецца шчырае слова.*
*Мова маці —*
*Крыніца сьвятая —*
*Да вытокаў*
*Намеры вяртае.*
*Як высокія мроі,*
*Аблокі*
*Думкі неба*
*Ратуюць ад сьпёкі.*
*Мы на гэтым сьвеце*
*Павінны*
*Гадаваць мову*
*Роднай Айчыны.*

*2 лютага.* А дзясятай вечара пазваніў дзядзька Рыгор, пытаўся пра справы, пра настрой. Запытаўся яшчэ, ці пойдуць ягоныя вершы ў наступны нумар «Дзеяслова», але толькі каб я не казаў Барысу Пятровічу, што гэта ён цікавіцца. Ужо напрыканцы размовы ўсё нешта гаварыў адно і тое, але я ніяк не мог зразумець, пакуль не здагадаўся: «Я пастрыг галаву», — казаў дзядзька Рыгор і дадаў, што бараду галіць не стаў.

*3 лютага.* Удзень патэлефанаваў Барадулін, дык я перадаў адказ Барыса Пятровіча: «Добрых вершаў зашмат не бывае. Частка іх пойдзе ў лютаўскі нумар “Літаратурнай Беларусі”, частка — у “Дзеяслоў”». Барадулін: «Ай, дзякуй!..» І ўжо на развітанне ў каторы ўжо раз казаў, што пасля падорыць мне тры кашулі, дадаў: «Каб мая павага да вас грэла вам плечы».

*4 лютага.* Пазваніўшы Барадуліну раніцай, павіншаваў яго з тым, што яго кніга «Сябрына» перамагла ў Нацыянальным конкурсе кнігі. Удзень ён сам патэлефанаваў і прачытаў верш, які сёння напісаў (пытаўся, дзе можна было б надрукаваць, дык я прапанаваў далучыць да «дзеяслоўскай» нізкі вершаў):

*100 - 80 =*
*Арсеню Лісу*
*Калі ад дзесяцёх дзясятак*
*Восем*
*Адняць —*
*Ня дваццаць застанецца,*
*А роўна гэтулькі,*
*Каб зноў*
*Нашчаднай песьняй*
*Разгавецца,*
*Папасьвіцца*
*Ў краіне сноў.*

*Яшчэ ў Арсеня*
*Дваццаць год*
*Ёсьць у запасе*
*Для нагод!*

*6 лютага.* Удзень быў у Барадуліна. Ад самага пачатку загаварылі пра Міхася Скоблу, таму папрасіў дзядзьку Рыгора зноў перадаць яму

гукавую прывітанку, і ён ахвотна пагадзіўся: «Мне дужа прыемна адчуваць, што ў мяне ёсць такі сябра (дазволю сабе такое сказаць — мой сябра), як Міхась Скобла. Міхась Скобла — гэта цэлая з'ява ў беларускай культуры, у той беларускай культуры, якая змагаецца і якую не так лёгка знішчыць. Міхась Скобла — гэта чалавек дапытлівы, чалавек, які ўсё хоча дапасці да сутнасці, да глыбіні. І калі ў нас будуць расці новыя Скоблы і Скоблікі *(смяецца)*, мы будзем багатыя. Можна нават такую меру багацця ўвесці: пяцьдзясят скоблікаў, сто скоблікаў, сто пяцьдзясят скоблікаў. Гэта як мера грамадскай вагі, як мера значнасці ў нашай культуры. Жыве Беларусь. І хай множыцца Міхась Скобла».

*16 лютага.* Быў у Барадуліна, прачытаў тэкст гутаркі з ім, якую падрыхтаваў для «Новага часу» (дзядзька Рыгор быў шчыра ўдзячны рэдактару «Новага часу» Аляксею Каралю за гэтую публікацыю, бо гутарка рабілася не да юбілею, а ўсяго толькі да 79-годдзя, і гэта было адзінае інтэрв'ю, якое з'явілася ў друку да дня нараджэння Барадуліна). Заўваг не было, ён толькі захацеў дадаць колькі слоў пра Камоцкага:

— Алесь Камоцкі. Я заўсёды маю патрэбу пазваніць яму, паслухаць яго, таму што тыя, каго я называў раней, — гэта з нашага «біялагічнага» загону, разумееце. (Размова ішла пра Г. Бураўкіна і У. Някляева. — *С. Ш.*) А Алесь Камоцкі, па-мойму, філасофскае аддзяленне канчаў, і мне вельмі цікавыя ягоная думка, ягонае ўспрыняцце… Я заўсёды цаню ягоную думку. Наогул, я цаню думку ўсіх, хто гаворыць ці добрае, ці дрэннае, — калі гавораць, значыцца, нешта ёсць, і нават калі ганяць, знішчаюць, значыць, нездарма.

— *Цэніце думку ўсіх, хто думае.*

— Правільна, добра сказалі.

Апроч гэтага пагаварылі яшчэ пра Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Караткевіча, пра «філалагічнае пакаленне» Барадуліна і — пра галоўныя шкадаванні тых, хто рыхтуецца да апошняга свайго шляху. Тэма, вядома, дужа далікатная, але не прыгадаю выпадку за апошнія гады, каб Барадулін, разважаючы на тэму смерці, колькі-небудзь бянтэжыўся, — пра немінучы сыход ён штораз гаварыў абсалютна спакойна. Зрэшты, пра тое было і ў яго вершах — тэма непазбежнага сыходу літаральна панавала ў яго паэзіі апошняга дзесяцігоддзя…



*З жонкай Валянцінай Міхайлаўнай*

— *Нядаўна Аляксандр Лукашук распавёў на Радыё «Свабода» пра кнігу аўстралійскай медсястры Броні Уэа «Пяць галоўных шкадаванняў людзей, якія паміраюць». Аўтар некалькі гадоў даглядала пацыентаў у апошнія тры месяцы іх жыцця. І высветлілася, што гэтыя людзі часта аднолькава выказваліся пра тое, што яны зрабілі б інакш у сваім жыцці. Дык вось, галоўныя шкадаванні такія: шкада, што не хапіла смеласці пражыць жыццё ў згодзе з самім сабой, а не так, як чакалі іншыя; шкада, што шмат працавалі; шкада, што страцілі сувязь з сябрамі і што не дазволілі сабе быць больш шчаслівымі. Цікава, што адзін з каментатараў да публікацыі пра кнігу ў англійскай газеце «The Guardian» напісаў, што шкадуе з усіх гэтых нагодаў ужо цяпер, хоць яму толькі 21 год. А ці знаёмыя вам гэтыя шкадаванні?*

— Шкадаванні знаёмыя, я гатоў да кожнага далучыцца і пад кожным распісацца. Гэта агульначалавечыя шкадаванні… Самае страшнае — застацца аднаму… Мне заўсёды хацелася вялікай сям'і, бо без сям'і мы — нічога… Мая мама, светлая ёй памяць, гаварыла, калі я быў яшчэ малады: «Каб быў з доўгай барадой і каб у цябе было многа ўнукаў, якія б цягалі цябе за бараду і мясілі табе клёцкі». «Мясіць клёцкі» — так у нас звычайна казалі, калі нехта нязлосна мясіў цябе кулачкамі ў жывот… Калі быў маладзейшы, дык у мяне было многа сяброў. Тыя ж Валодзя Караткевіч і Міхась Стральцоў былі для мяне як сям'я… Цяпер я адзін… Праўда, ёсць такая вушацкая прыказка: адзін — ды ладзін, у сэнсе — ды ладны, але гэта слабое суцяшэнне…

Потым дзядзька Рыгор даў рукапісы двух вершаў: «Акраздзіў» і другога, без назвы, які вырашыў тут жа назваць «Дзмітру Паўлычку» і які быў падпісаны 10.02.2014 г. Але Барадулін запытаўся: «Калі ў Кіеве быў Майдан?» Я адказаў, што Майдан, пачаўшыся яшчэ да Новага года, доўжыцца дасюль, дык дзядзька Рыгор папрасіў пазначыць верш іншай датай — 1.02.2014.

Пасля я прапанаваў напісаць ліст Генадзю Бураўкіну, які цяжка хварэе і ад самага пачатку студзеня ляжыць у бальніцы. (Калі Генадзь Мікалаевіч толькі збіраўся класціся туды, ён наўмысна не пазваніў Барадуліну, каб той не хваляваўся. Ведаючы пра тое, я таксама нічога не гаварыў, хоць дзядзька Рыгор не аднойчы пытаўся пра



*Рыгор Барадулін падпісвае кнігу*

Бураўкіна. Але калі Барадулін нядаўна пазваніў яму дамоў, тады сам пра ўсё даведаўся ад Юліі Якаўлеўны, жонкі Генадзя Мікалаевіча.) Барадулін быў пагадзіўся, але пасля сказаў, што яму цяжка пісаць, і таму прамаўляў на дыктафон:

«Дарагі Генадзь, не хапае цябе мне, Мінску і Беларусі. Там, дзе ты, там і ўсмешка, і жарт, і мудрасць. Там і жыццё, дзе ёсць Генадзь Бураўкін, а калі гаварыць афіцыйна, дык Генадзь Мікалаевіч. Афіцыйна, бо дзе ты быў, там заўсёды быў парадак. І калі ўзначальваў радыё і тэлебачанне, дык яны былі беларускімі. Калі працаваў у ААН, там таксама адчувалі, які ты шчыры беларус — самы карэнны, самы крэўны, як гаварылі ў нас на Полаччыне. А Полаччына — гэта і цемя нацыі, і сэрца нацыі. Ты якраз адтуль. Ты быў першы, каго я сустрэў ва ўніверсітэце, і адразу пацягнуўся да цябе. І мая мама дужа паважала і любіла цябе. Ставіла мне цябе ў прыклад, а мяне пры гэтым называла "галамежкай".

Твая дасведчанасць, твая дапытлівасць заўсёды вабілі мяне. Ты ніколі не быў абыякавы. І заўсёды быў за Беларусь, за Беларусь і яшчэ раз за Беларусь, за тое, каб Беларусь была незалежнай. Ты многа для гэтага зрабіў. Зараз ужо ўсё забылася, тым не менш уклад, унесены табой у незалежнасць Беларусі, вялізны. І хай гэтага не ведаюць чыноўнікі, затое ведае гэта Беларусь. Тым больш што чыноўнікі змяняюцца, а Беларусь была, ёсць і будзе. І Генадзь Бураўкін быў, ёсць і будзе. І будзе твая паэзія, будуць твае песні. Адна твая "Калыханка" чаго вартая! Ты сваёй "Калыханкай" выгадаваў, відаць, больш за мільён дзяцей. Зрабіць не зрабіў, а выгадаваць — выгадаваў…

Дарэчы, вельмі сімвалічна, што маме тваёй споўнілася сто год. Як гэта здорава!.. Я не змог быць на яе дні нараджэння, дык хоць цяпер праспяваю *(дзядзька Рыгор пяе)*: "Сто год, сто год хай доля бачыць нас! Яшчэ раз! Яшчэ раз! Хай доля любіць нас! Сто год, сто год хай доля бачыць нас! Яшчэ раз! Яшчэ раз! Хай доля любіць нас! Сто год, сто год хай доля бачыць нас! Яшчэ раз! Яшчэ раз! Хай доля любіць нас!"

Я пяю гэта зараз нашаму дарагому сябру, які ёсць якраз прыкладам таго, што калі чалавек добры, дык ён добры не ў залежнасці ад нацыянальнасці, — гэта наш Сяргей Шапран. Ён больш за Беларусь хварэе, чым самі беларусы. І вось я пяю яму, а калі табе будзе сто гадоў, — мяне ўжо не будзе, але нехта і табе прапяе. Ты пачуеш гэта і ўспомніш, што быў такі дзядзька, з якім ты некалі разам пісаў для "Калючай хвалі". Памятаеш, як мы нейк пакрытыкавалі піжонаў, дык адразу пайшлі заяўкі з просьбай паўтарыць нашу "Песню піжона"?..

Генадзь, мілы, можна доўга гаварыць, доўга прыгадваць, ты толькі папраўляйся хутчэй. Цябе чакае ўся Беларусь. Дый не толькі Беларусь — яшчэ і прыгарады яе: Нью-Ёрк, Парыж, Берлін, ну і Вушача. Хай табе добра будзе, хай табе вясёла будзе. Генадзь, ты самы лепшы мой сябра. Я цябе шаную, я цябе люблю. І жадаю, каб ты дацягнуў да сто год.

Сто год! Сто год! Сто год!»

*24 лютага.* Разам з Някляевым віншавалі Барадуліна з 79-годдзем. Дзядзька Рыгор пачуваўся не лепшым чынам — і выглядаў не надта добра, і гаварыў гэтаксама (нават практычна не размаўляў, а, здавалася, быў засяроджаны на нейкіх сваіх думках), дый настрой быў адпаведны, нягледзячы нават на тое, што ў гасцях у яго быў Някляеў. Зрэшты, і Уладзімір Пракопавіч не паводзіў сябе так, як звычайна. Мусіць, на яго настрой паўплываў выгляд сябра: некалькі дзён таму Барадулін пагаліўся і пастрыгся «пад нуль» і таму чамусьці неяк састарэў, у дадатак глядзеў цяпер на нас, падавалася, адсутным позіркам. Ён нібыта знаходзіўся на мяжы гэтага і нейкага іншага свету… Настрой Някляева яшчэ больш пагоршаў, калі ён у адказ на просьбу Барадуліна дапамог яму падсунуцца ў крэсле да стала, пасля ад стала… Калі потым выйшлі на вуліцу, я запытаўся: «Відаць, цяжка было бачыць Барадуліна ў такім становішчы? Вы ж з маладосці яго ведаеце…» Някляеў у адказ: «Невыносна. Не дай Бог дажыць да такога стану. Лепей у палёце над Майданам».


З Наталляй Давыдзенка

…Ужо калі сабраліся сыходзіць, я папрасіў дзядзьку Рыгора сказаць колькі слоў тым, хто яго павіншаваў. Барадулін, сказаўшы «магу», гаварыў: «Я хачу сказаць шчыры дзякуй усім тым, хто ўзгадаў, што ў мяне дзень нараджэння, хто пажадаў мне добрага настрою. І, у сваю чаргу, я ім жадаю і настрою, і поспехаў. Хай будзе больш людзей, якія паспачуваюць, якія не злыя, а ласкавыя. Хай будзе ўсё добра».

Гэта былі, мусіць, апошнія яго словы, сказаныя для друку.

*27 лютага.* Як звычайна, удзень пазваніў Барадулін. Спытаўся, чым займаюся, як настрой, пасля — калі выйдзе газета з вершамі. Я адказаў, што яна будзе заўтра, дык мо тады з газетай і завітаю. Барадулін: «Можа, вазьміце пару нумароў». Але назаўтра я не сабраўся…

*2 сакавіка.* Удзень пазваніў Барадулін. Кажу: «Дзядзька Рыгор, сёння ж даравальная нядзеля». Барадулін, здаецца, не зразумеў, таму я патлумачыў: «“Прощеное воскресенье” — “даравальная нядзеля” па-беларуску?» — «Так, даравальная нядзеля». — «Дык даруйце мне, дзядзька Рыгор, калі што не так было». — «І вы мне даруйце, калі што не так было», — лагодным рэхам паўтарыў Барадулін і пачаў гаварыць добрыя словы ў мой адрас — дзякаваў за гады ласкі, як ён сказаў, і ўвагі, яшчэ нешта добрае прамаўляў — па шчырасці, не раз ужо чуў гэта і таму не дужа зважаў на тыя добрыя яго словы. Каб ведаў тады, што гэта было апошнім разам…

Дзядзька Рыгор яшчэ пытаўся: «Як вашы справы? Чым сёння займаецеся?» (Ён часта так пытаўся апошнім часам, ці, скажам: «Што сёння рабілі?») Я адказаў, што Быкаўскай «Ліквідацыяй», а праца над непадцэнзурнай рэдакцыяй «Мёртвым не баліць» практычна завершана. Барадулін зноў запытаўся пра «Літаратурную Беларусь». Я сказаў, што заўтра зайду ў рэдакцыю, а пасля да яго. Дзядзька Рыгор: «Гэта не тэрмінова. Проста неяк прынясіце». Яшчэ пытаўся, ці перадаў яго кнігі Аляксею Каралю, і нечакана прыгадаў, ці аддаў я кнігі Лявону Баршчэўскаму (нядаўна знайшоў у дзядзькі Рыгора ў шафе кнігі з даўнімі дарчымі аўтографамі для Баршчэўскага — ён, мусіць, некалі падпісаў дый пасля забыўся). Я адказаў, што заўтра Баршчэўскі будзе весці моўныя курсы, дык падыду туды. «Не-не-не, гэта не тэрмінова», — заўважыў Барадулін. І пасля: «Жадаю вам па-вушацку, каб былі багаты і касматы». — «Ну я вам, дзядзька Рыгор, не магу пажадаць, каб вы былі касматы, бо вы толькі што пастрыгліся…» Барадулін рассмяяўся і дадаў: «Перадавайце паклон вашай маленькай».

І апошнія яго словы: «Вы званіце». Ён часта так гаварыў у гэтую зіму, зрэдчас: «Можна я вам калі яшчэ пазваню?» Я заўсёды губляўся, калі дзядзька Рыгор так казаў…

* * *

Пасля шасці вечара пазваніў Глеб Лабадзенка: «Сяргей, у мяне кепская навіна. Я падумаў, што лепш ты даведаешся пра гэта ад мяне, чым з інтэрнэту. Пазваніла Валянціна Міхайлаўна — памёр дзядзька Рыгор, сэрца спынілася». Я не ведаў, што гаварыць, я доўга не ведаў, што тут увогуле можна было сказаць… Пасля ўжо Глеб казаў, што

едзе да Валянціны Міхайлаўны, мо было б добра, каб і я пад'ехаў. Я пазваніў Някляевым, але Уладзімір Пракопавіч быў у Хельсінкі ў дачкі Евы, таму да Барадуліных паехалі разам з Воляй. Па дарозе званок на мабільны — тэлефанаваў Някляеў: «Вольга мне сказала…» І затым: «Не магу гаварыць…» Ужо калі былі ў Валянціны Міхайлаўны, Някляеў зноў пазваніў: «Ты дакладна помніш, што Барадулін сказаў, што хоча быць пахаваным у Вушачах?» — «Дакладна».

* * *

І дасюль на маім аўтаадказчыку запіс адной з апошніх нашых размоў. 23 лютага, калі патэлефанаваў Барадуліну, ён папрасіў запісаць яшчэ адзін верш для «дзеяслоўскай» нізкі — пад назвай «Мальба», які напісаў толькі ўчора. Прадыктаваўшы, запытаўся, як і заўсёды апошнім часам: «Нармальна?.. Гэтым вершам было б добра кончыць падборку…» Але абсалютна на тым не настойваў: «Будзе — дык будзе, а не будзе, дык не будзе». Потым я казаў пра іншае: «Вось у вас ёсць верш пад назвай "Й", а мо прысвяціце верш "Ў"? Гэтая літара шмат значыць для беларусаў, нават у моду ўвайшла апошнім часам». «Добра, — адказаў Барадулін. — Я буду старацца… — І праз паўзу: — Зраблю». «Але ж гэта не загад, дзядзька Рыгор», — казаў я жартам. «Не-не-не, чаму? Пажаданне… Я пакручу». Потым гаварылі пра фотаздымак, які я зрабіў у студзені і які дужа спадабаўся Барадуліну. Калі ён упершыню ўбачыў яго надрукаваным у «Новым часе», доўга глядзеў, не адрываючыся — я ніколі не бачыў, каб дзядзька Рыгор быў так уражаны ўласным здымкам. І цяпер, калі я сказаў, што гэты фотапартрэт стаіць у мяне на стале, ён паўтарыў:

— Проста геніяльна. Лепш, чым я ёсць.

— *Памятаеце, як у Пушкіна: «Себя как в зеркале я вижу…»*

— Да-да-да!.. *(Барадулін засмяяўся.)* Я сябе бачу лепшым, чым ёсць, і гэта дзякуючы майму дарагому сябру Сяргею.

— *Я вам таксама, дзядзька Рыгор, удзячны…*

— Я вам дужа ўдзячны. Добра, што мы сустрэліся, добра… Я заўсёды хачу вам дабра…

…Праз сорак дзён пасля 2 сакавіка мы выдалі новую яго кнігу «У неба пехатою», у якой разам былі сабраныя пераважна тыя вершы, што дзядзька Рыгор даваў для перадруку ў апошнія свае восень — зіму. На вокладцы зборніка — той самы фотапартрэт, які так яго ўразіў. Завяршалася кніга вершам «Мальба», які дзядзька Рыгор прадыктаваў за тыдзень да сыходу і які дасюль гучыць ягоным голасам на маім аўтаадказчыку:

*Неба — трывалая столь.*
*Марна стараецца люць.*
*Госпад!*
*Ачалавеч мой боль,*
*Свойскі мой страх зьбязьлюдзь!*




***Стол Барадуліна ў яго кабінеце ўвечары 2 сакавіка 2014 г. Фота Глеба Лабадзенкі***

# Пад знакам адраджэння



Аляксей БЕЛЫ

**У юнацтве ён займаўся бегам з бар'ерамі. І, трэба сказаць, дасягнуў у гэтай справе добрых вынікаў — стаў кандыдатам у майстры спорту па лёгкай атлетыцы. Гэтаму спрыялі мэтанакіраванасць і самаадданая праца на вынік — рысы характару, якія засталіся ў Андрэя Сянько на ўсё жыццё. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова пагаварыць з ім хаця б гадзіну…**

Яшчэ ў студэнцкія гады Андрэй адкрыў у Баранавічах адну з першых прыватных крамаў. Гэта ён пабудаваў у 1994 годзе аўтазапраўку каля Баранавіч-Палескіх. Потым узвёў такія ж заправачныя станцыі ў Навагрудку, Лідзе, Радашковічах, Крэве… Праўда, у 2004-м сетку сваіх заправачных станцый Андрэй Сянько прадаў «Лукойлу».

Яшчэ адным яго бізнес-праектам стаў помнік гістарычна-культурнай спадчыны XIX стагоддзя — палац беларускіх шляхціцаў з татарскімі каранямі Катлубаеў, які Андрэй набыў у 2014 годзе ў вёсцы Ястрамбель Баранавіцкага раёна. Зрэшты, помнікам гэтае старадаўняе збудаванне цяпер назваць цяжка. Хутчэй, гэта тое, што засталося



*Сядзіба, якую аднаўляе Андрэй Сянько*

ад цудоўнага будынка з ляпнінай, кафлянымі печамі, старажытным паркам. Між тым, заплаціць за гэта давялося па нашых мерках немалыя грошы, у эквіваленце — каля 90 тысяч долараў. Мара Андрэя — аднавіць палац, зрабіць там з мэтай захавання гістарычнай спадчыны сапраўдны культурніцкі цэнтр, дзе да нашай Мінуўшчыны маглі б дакрануцца ўсе, каму яна дарагая і хто гэтым цікавіцца. Найперш новаму гаспадару палаца хочацца, каб гэтым цікавіліся мы, беларусы. «Я за нацыянальную самасвядомасць», — сказаў ён у адным са сваіх інтэрв'ю.




Нарадзіўся Андрэй Сянько ў Баранавічах у 1969 годзе. Яго маці скончыла інстытут народнай гаспадаркі і працавала на камбінаце харчовых прадуктаў, бацька быў музыкантам. Так сталася, што падлеткам Андрэй памяняў некалькі школ. Прычыны былі простыя: спачатку сям'я змяніла месца жыхарства, а потым гэта было звязана якраз з тым, што Андрэй пачаў сур'ёзна займацца лёгкай атлетыкай — бегам з бар'ерамі. Неаднаразова быў чэмпіёнам рэспублікі, сваім настаўнікам лічыць заслужанага трэнера Беларусі Уладзіміра Радчанку.



Пасля школы Андрэй паступіў у той жа інстытут народнай гаспадаркі, які скончыла яго мама, на аддзяленне «Фінансы і крэдыт». Гэта і вызначыла яго далейшы лёс. У сталіцы жыць падабалася, паралельна з навучаннем у інстытуце займаўся самаадукацыяй. У 1991-м зарэгістраваў сваю першую фірму. Тады ж і адкрыў у родным горадзе прыватную краму, дзе гандлявалі адзеннем і прадуктамі харчавання. Адслужыў у войску ў спартыўнай роце. І ўжо гадоў дваццаць стала жыве ў Мінску, кіруе інвестыцыйнай кампаніяй, займаецца будоўляй, гандлем. Жанаты. Сын узначальвае сетку сталічных кінатэатраў, дачка вучыцца ў школе. У жонкі, як ён гаворыць, свой, самы складаны бізнес — сям'я. І дадае з усмешкай: «Без права на памылку». Дарэчы, з сваёй суджанай ён пазнаёміўся ў інстытуце.

Па ўсім відаць, што ён чалавек справы. Занятасць Андрэя Сянько адчувалася нават у час нашага інтэрв'ю: яму пастаянна тэлефанавалі, пра нешта пыталіся, штосьці ўзгаднялі і ўдакладнялі.

Другім пунктам адліку для Андрэя Сянько стала Іспанія, дакладней, Барселона. Там ён таксама праводзіць значную частку жыцця. Праўда, па словах Андрэя, бізнесу ў Іспаніі ў яго няма. Ёсць кола знаёмых, з якімі ён мае стасункі. Пра Барселону ён гаворыць так: «Гэта адзін з нешматлікіх гарадоў каля мора з унікальнай архітэктурай. Там старажытныя палацы цудоўна ўжываюцца з хмарачосамі са шкла і бетону». З гэтым меркаваннем цяжка не пагадзіцца. Насамрэч, мора, пальмы, помнікі архітэктуры, мноства кветак, жывыя скульптуры на Пляц Каталонія ўражваюць і пакідаюць незабыўныя ўспаміны…

Адносна Ястрамбельскага палаца ў Андрэя вялікія планы. Мяркуецца, што гэта будзе турыстычны комплекс з музеем, выставачнай залай. Але гаспадар хоча мець для свайго тураб'екта ва ўласнасці ўвесь парк з сажалкай, усе шэсць гектараў, а не 80 сотак, якія яму на сённяшні дзень перадалі ў карыстанне. Ёсць планы і на бровар, што месціцца недалёка, — Андрэй марыць зрабіць там гатэль. Між іншым, гэты бровар гадоў пятнаццаць таму яшчэ працаваў, а ў фірмовых крамах мясцовага саўгаса бойка гандлявалі 96-градусным «спіртам харчовым». «Калі ўсю прылеглую тэрыторыю не перададуць і не будзе магчымасці ажыццявіць задуманае, палац за высокім плотам можа стаць проста маім лецішчам», — заўважае Андрэй. А пакуль, з надыходам сезона, гаспадар Ястрамбельскага палаца мяркуе пачаць аднаўленне фасада будынка.

Аўтару гэтых радкоў давялося больш за 10 гадоў жыць у настаўніцкім доме насупраць палаца ў Ястрамбелі. Тады вакол гэтага архітэктурнага помніка яшчэ было шмат гаспадарчых збудаванняў XIX–XX стагоддзяў, а ў самім гістарычным будынку жылі дзяўчынкі-сіроты. У 1972 годзе там адкрылі школу-інтэрнат. Дзеці жылі па 13–14

чалавек у пакоі, а хадзілі яны ў аднолькавых сукеначках і паліто ў клетку. Той час я добра памятаю: палац быў яшчэ «жывы», шмат што засталося ў ім з былога аздаблення. Праўда, прыгожыя кафляныя печкі на той час ужо «перакачавалі» ў вясковыя хаты, дзе іх можна пабачыць і цяпер. Дарэчы, Андрэй выказаў пажаданне паглядзець на прыгажосць, што перамясцілася ў сялянскае жытло.

У свой час пра гэтыя мясціны напісаліся такія радкі:

*Маёнтак. Парк. (Сто год яму ці болей.)*
*Жалезам вежа над палацам ззяе.*
*Не скончылі. На жаль, у нашым краі*
*Усё напалову, усё з журбы і болю.*
*Прайсці бурлівай рэчкі берагамі,*
*Крануць рукой пабітыя цагліны…*
*Застаўся бровар, і не стала млына…*

Так, бровар ёсць, засталіся мураваныя сцены палаца. Да старажытнага парку туліцца рэчка Мышанка, на якой, пэўна, варта было б адрадзіць аўтэнтычны млын — каб круцілася кола, шумела вада ў пліцах… Усё гэта стала б цудоўным дадаткам да самога збудавання, у якім таксама шмат што трэба зрабіць.

Па словах Андрэя Сянько, некаторыя ўспрымаюць гэты праект як дзівацтва. Маўляў, чалавек марна траціць грошы. Насамрэч гэта асэнсаваная, добра прадуманая ідэя, калі хочаце, мара, якая выношвалася не адзін год. І да палацаў, і да іншых старажытных збудаванняў ён прыглядаўся даўно, аднак выбар свой спыніў на Ястрамбелі. Вельмі хочацца спадзявацца, што гэтаму збудаванню дый аднайменнаму населенаму пункту пашчасціла і што ў Андрэя ўсё атрымаецца.

Праўда, дзеля гэтага, як гаворыць Андрэй Сянько, трэба прайсці праз шмат узгадненняў у Міністэрстве культуры, мясцовым райвыканкаме, іншых інстанцыях. Гэта, зразумела, адбірае нямала сілаў і часу, але, пэўна, добрая задума вартая таго. Толькі ў такім выпадку будзе адроджаная тэрытарыяльная цэласнасць сядзібы, толькі тады можа здзейсніцца Мара Андрэя Сянько.



# Фотакарэспандэнт TUT.BY перамог у адной з намінацый міжнароднага конкурсу




Кіеўская школа фатаграфіі падвяла вынікі штогадовага міжнароднага конкурсу «Залатая камера». Фотакарэспандэнт TUT.BY Аляксандр Васюковіч перамог у намінацыі «Дух свабоды» з дакументальнай фатаграфіяй студзеньскіх падзей на кіеўскім Майдане. У фотаконкурсе прынялі ўдзел 1 500 фатографаў з 42 краін свету.

*Аляксандр Васюковіч (справа) на ўзнагароджанні ў Кіеве*

*Фота-пераможца*





*Ястрамбельскі палац («Пад знакам адраджэння», стар. 60)*